НА ШАСНАЦЦАЦІ ПАЛОСАХ



*1996 №3* *Зь любоўю да ўлоньня*

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА



*Белавежскі зубр (Bison bonasus)*
**Старажытны від. У стане аднаўленьня. Працягласьць жыцьця 23-27 гадоў. Рассяляецца, мае некалькі папуляцыяў. Вольны.**

КУЛУАРЫ

**Якім матэрыяльным коштам вымяраюцца багацьці Белавежскай пушчы? Эканамісты й эколагі задумаліся і назвалі прыкладную суму 500 мільёнаў даляраў як найбольш абгрунтаваную.**

*Падрабязнасьці ў наступным нумары.*

## *БУДЗЕМ ЖЫЦЬ, БО ЯНЫ ЖЫВУЦЬ...*

РЭДКІ ЗДЫМАК

*Фота: Аляксандр Казулін.*
*Бераг Прыпяці. Столінскі раён. Канец траўня.*



## Купаньне бусьлянят

Каб узгадаць ды яшчэ лепш засвоіць глабальную тэзу, што ЎСЁ ЗЬВЯЗАНА З УСІМ, варта ўважліва паглядзець на гэты здымак і прачытаць нумар газеты. Спачатку пра фотаздымак. Дарослы бусел прынёс на гняздо ў дзюбе вады й палівае срэбрым струменем /гэта выразна відаць/ неапераных птушанят. Можа, сьпякота змарыла, захацелася апаласнуцца, можа, клопат пра цела ёсьць нормаю бусьлінае гігіены. Галоўнае, знайшлася вада. Паблізу. З ракі, якая побач. За поймаю, ўдалечыні відзён пасак гаю ці лесу. І кожнае дрэва, кожны лісток на галіне жыцьцём сваім праслаўляюць вільгаць, ваду, рачны плёс.

Калі мы прыносім дадому букецік кветак, адразу ставім іх у букетніцу з вадой. Мы імітуем Прыроду. Гэта велічна й сымбалічна, бо ўсё, што наўкола расьце і квітнее, — палі-сенажаці, лясы й пушчы — адна, неахопная сваім памерам, адвечная букетніца нашага краю, нашага ўлоньня. Здавалася б, колькі таго клопату — не перакуліць букетніцу, ня выліць зь яе ваду, захаваць сістэмы ў іх непарушнай паставе, у іх шматаблічнасьці ды натуральнай красе...



На жаль, вады ў навакольлі ўсё менш ды менш. Яна спакваля сыходзіць з паверхні зямлі, "правальваючыся" ўглыб, яе ўжо бракуе нашым лясам і гаям, а на вясковых дварах перасыхаюць студні. Вобраз перакуленай кветніцы ў дачыненьні да нашых пейзажаў, ландшафтаў-ваколіц складаецца ўжо не з адных перасьцярожлівых уяўленьняў, а мае зусім відавочна-рэальныя рысы й падставы.

Мне зразумелая бусьліная асалода, гэткая дабрыня і шчаснасьць памыснага беларускага поўдня. Калі з бусьлянкі наўкруга кінуць вокам — ужо не бусьліным, а сваім, чалавечым, — дык і самога сябе ахоплівае шчасьлівае замілаваньне, вялікая радасьць: за сьвежы глыток рачной вады, ха гэтую пойму-сенажаць, за дрэва, на якім вольна разьмясьціліся птушкі, за раку, што струменіць у далеч, за кожную стрэлачку-зёлку ў лугавой раскошы, за гэтыя мілыя сэрцу, сагрэтыя весьнім сонцам абшары Бацькаўшчыны.

Валерый Дранчук

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс" і пры падтрымцы Дзяржаўнага нацыянальнага парку "Белавежская пушча".*

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук.*

*Для кантактаў: 220088 Менск, а/с 122 Тэл. (0172) 236-50-76*

*Published on the initiative of the Green Agency "Nerush-press"*

*The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk*

*Contact: 220088 Minsk, box 122*



## Пажар у Пушчы

### Ён здарыўся 185 гадоў таму і доўжыўся чатыры месяцы запар

*Адгорнем 66-ю старонку вядомага "літоўска-беларускага" тома "Маляўнічай Расіі". Аўтар артыкула А.Кіркор вельмі моўна, яскравымі рыскамі падае сцэны лясной драмы. Перакажам гэтае месца.*

Вы спытаеце, як, якім чынам лясы белавежскія, маючы гэтулькі рознага трухлявага скарбу, пры такім вялікім павале ўнікаюць закінутай іскры, крыюць сябе ў часе сухменяў ад ліха пажараў. Канешне, гэта варта найперш патлумачыць асаблівым ахоўным клопатам, сумленнасьцю й пільнасьцю лясных стражнікаў. Але ў гісторыі Пушчы захавалася памяць пра няшчасны 1811 год, калі прыканцы траўня ўспыхнуў страшны пажар, які зь неймавернаю жудасьцю й быстрынёй заваладаў цэлымі абшарамі лясных нетраў. Былі прынятыя самыя рашучыя захады, нагналі тысячы людзей, залівалі, капалі канавы – ўсё дарэмна. Агнёвае мора шырылася на дзесяткі вёрстаў ва ўсе бакі. Вось якія падрабязнасьці перадавалі відавочцы гэтай страшнай, усёпаглынальнай стыхійнай аблады. У траўні пачаўся суцэльны сухмень; сярод багатай расьліннасьці, языката зьвіваючыся, агонь ахопліваў буйныя ветраломы, абдымаў векавыя дубы. Дзіка раўлі зьвяры, чуліся крыкі людзей, з трэскам пылалі павалы й самі дрэвы, глуха вуркатала, вірліва абаймаючы ветралом, імклівае полымя – ўсё зьлівалася ў такую пякельную музыку, што, са слоў відавочцаў, яна на ўсё жыцьцё пакінула цяжкі, ашаламляльны ўспамін. Зубры беглі ня ведаючы куды; але агонь быў хутчэйшы за іх, шмат абгарэла і ледзьве ўратавалася, іншыя падалі на зямлю й тут жа рабіліся здабычаю полымя. І гэтая шалёная агнёвая оргія лютавала безупынку чатыры месяцы, як раптам, 1 кастрычніка, амаль нечакана ўвесь гарызонт абцягнула цяжкімі цёмнымі хмарамі, хмары прарвала і паліў такі дождж, якога ніхто не памятаў. Дождж не пераставаў цэлы дзень, і на ўсёй абшарыне пажар быў дазваньня патушаны, але шкода і страты, учыненыя стыхіяй, – былі жахлівыя. *Паводле кнігі "Маляўнічая Расія... Літоўскае і беларускае Палесьсе", 1882.*

▪ *Малюнак з кнігі.*

▪ *На пушчанскім улоньні.*







### З рэдакцыйнае хронікі:

## доктар Бэрвік мае намер падпісацца на нашу газету. А вы?

Эксперт Сусьветнага банка рэканструкцыі і разьвіцьця доктар Стыў Бэрвік, які наведаў Беларусь з місіяй кантролю за выкананьнем Праекта па ахове біялагічнай разнастайнасьці лясоў Белавежскай пушчы, з мноства беларускіх перыядычных выданьняў заўважыў... газету "Белавежская пушча" і пажадаў сустрэцца зь яе заснавальнікам.

"Я ўражаны і самой газетай, і асабліва ініцыятывай Вашага выданьня", – сказаў Бэрвік пад час сустрэчы. Ён адзначыў каштоўнасьць пачынаньня, пацікавіўся далейшымі планамі рэдакцыі, найперш магчымасьцю падпіскі на газету жыхароў пушчанскага краю. Калі б газета выходзіла па-ангельску, яна б мела посьпех і ў ЗША, сказаў амерыканскі знаўца.

**Хто жыве на Беларусі і шануе каштоўнасьці Бацькаўшчыны, зробіць карысную справу, калі выпіша газету "Белавежская пушча". І не адно сабе. Падпіска на наша выданьне — выдатны падарунак сябрам і знаёмым. Асабліва пад Новы год ці Ражство.**

**НАША МЕСЦА ЗАМОЎЛЕНА Ў ПАДПІСНЫМ КАТАЛОГУ НА 1997 ГОД.**

## Беларускія каналакапальнікі хочуць вярнуцца ў Белавежскую пушчу

***Віталь Прошча***

Асушэньне ў недалёкім мінулым пушчанскіх урочышчаў, як і палескіх балотаў, не пакінула пасьля сябе нічога, апроч горычы ды расчараваньня. Сканала векавое балота, рэзка панізіўся ўзровень грунтовай вады, загінулі абшары белавежскіх ельнікаў. Лічаныя дрэвы засталіся ад знакамітай Цісоўкі – піхтавага ляску. Свой першародны воблік і чысьціню страціла рэчка Нараўка, што стагоддзі пятляла ў спрадвечнай акрасе.

Аднак за гады, пакуль меліяратары асвойвалі іншыя нерушы Бацькаўшчыны, спускаючы ваду ў акіян, Пушча з уласцівай ёй настойлівасьцю зацягвала, рубцавала нанесеныя ёй раны. Зарасталі глыбокія каналы, пакрысе забалочваліся асушальныя дзялянкі. Пушча вяртала сабе тое, што ў яе па-дзікунску забралі.

Схамянуўшыся, каналакапальнікі ўзьнялі сапраўдны "алярм": забалочваецца асушаная тэрыторыя, прыйшлі ў нягоднасьць меліярацыйныя сістэмы, значыць, давай рэканструкцыю, пачынай спачатку. Зьявіўся і адпаведны праект ажна ў трох варыянтах, сэнс якога зводзіцца да ўзнаўленьня занядбаных каналаў, іх ачысткі й паглыбленьня, будаўніцтва новых аб'ектаў. На практыцы гэта азначае, што ўся неўміручая пераўтваральная рацьзноў вернецца ў Пушчу. З бульдозерамі, экскаватарамі, рокатам магутных машын...

Запушчаны ўжо й механізм узгадненьня праекта. Прынясьце рашэньня, аднак, прадугледжвае не адно думку вучоных, інжынераў, але й мясцовага насельніцтва. Ёсьць зьвесткі, што Нацыянальны парк "Белавежская пушча" ня мае намеру даваць згоду на правядзеньне меліярацыйных работ, бо лічыць іх экалагічна шкоднымі. Прафесар Барыс Савіцкі, які зьмяніў крэсла старшыні парламенцкай экалагічнай камісіі на пасаду намесьніка дырэктара Нацыянальнага парка па навуцы, так выказаў сваю пазіцыю падчас разгляду праекта ў Акадэміі навук 22 сакавіка: "Калі пусьціць меліярацыю ў Пушчу, ад велічнага запаведніка, лічы, у хуткім часе застануцца адны ўспаміны".

Да гэтага варта дадаць, што Рада Еўропы зьбіраецца ўшанаваць Белавежскую пушчу Еўрапейскім Дыпломам. Пры гэтым маецца на ўвазе не адно захаванасьць унікальнага прыроднага комплексу, але й эфектыўнасьць заканадаўства, здольнага засланіць яе ад замахаў homo sapiens. ▪


SUMMARY

***In summer time the National park "Belovezhskaya Pushcha" is especially various and attractive. The informational page on Pushcha's life, p. 2, is varied, too.***



# Я не пішу гісторыю, я яе зьбіраю, —

**сказала пра сябе ў часе гаворкі археолаг Ала Кватткоўская. Гэтыя словы і сталі назовам артыкула, які яна прынесла ў рэдакцыю праз колькі дзён.**

Пятнаццаць гадоў таму я атрымала тэму навуковых даследаванняў пра пахавальныя помнікі яцвягаў другога тысячагоддзя, і лёс надоўга звязаў мяне з Панямоннем, дзе дагэтуль я ніколі не была.* Трэба было шукаць помнікі і рабіць раскопкі, а без дапамогі мясцовых жыхароў — і ў гэтым я шмат разоў пераконвалася — працаваць было амаль немагчыма. Гэта яны, кожны пакрысе, захоўвалі гісторыю свайго краю, сваіх продкаў, і трэба было сабраць яе ў адзінае цэлае...



Фота: Вільгельм Дубіловіч



■ "Пагоня" на пячатцы полацкага князя Глеба. 1330г.

■ Надмагільле Ягайлы з гербам "Пагоня" Першая палова XV ст.

## "Ну глядзі, што там трэба табе", альбо "Брыдка́я" работа

Пачынала я з раскопак старажытнага могільніка каля вёскі Навасёлкі Зэльвенскага раёна. Дзівіліся людзі, што спатрэбілася варушыць старыя магілы і турбаваць нябожчыкаў. Няхай сабе і невядома, чые там яны сваякі, а ўсё ж неяк не па-людзку. Таму і пыталіся неаднойчы: а нашто навуцы гэтыя старыя косці і якая ад іх карысць? І пачынала я тлумачыць, што няма іншага выйсця, як рабіць раскопкі, таму што трэба ведаць сваіх продкаў і сваю гісторыю. Гэта той падмурак, на якім грунтуецца будучыня, і з дапамогай якой людзі маюць магчымасць свядома рушыць наперад. А калі чалавек не ведае, з якога ён роду-племяні, дык адкуль жа яму ведаць сваё прызначэнне, свой шлях-накірунак. Так і будзе блукаць у цемры ды пакутваць...

**Першыя, хто прыйшоў паглядзець, што робяць людзі на горцы, былі... куры. Паквахтаўшы, яны хутка зніклі, замест іх з'явіліся гусі і качкі. Потым прыйшла карова.**



❖❖❖

*Ала Кватткоўская, археолаг.*

*Родам з Берасця. Закончыла Белдзяржуніверсітэт, вучылася ў аспірантуры пры Інстытуце гісторыі Акадэміі навук. Абараніла дысертацыю пра каменныя могільнікі, цяпер распрацоўвае тэму балцкіх этнасаў на Беларусі V — VII стагоддзяў, працягвае археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Белавежскай пушчы.*

Адначасна з раскопкамі я пыталася ў людзей, што яны ведаюць з даўніны, што захавалі з расказаў сваіх бабуляў-дзядуляў. Цікава і важна было дазнацца, ці жывая ў народзе ягоная гістарычная памяць... Так пачалася наша сумесная праца: яны распавядалі, а я слухала і параўноўвала пачутае з тымі матэрыяламі, што давалі археалагічныя раскопкі. Так пачалося збіраньне гісторыі яцвягаў, і дапамагалі мне людзі — не толькі словам, але і справай.

Калі скончыліся "планавыя" грошы на раскопкі могільніка, я рушыла ў разведку, пачала збіраць звесткі пра такія ж помнікі, што захаваліся паблізу іншых вёсак. Зацікавіў мяне могільнік ля вёскі Івашкавічы, я вырашыла тут крыху пакапаць. Згадзіўся дапамагчы і мой калега А., які таксама вывучаў помнікі каменнага веку, але больш старажытных за мае могільнікі. Капалі мы па чарзе, таму што грунт быў цяжкі — пясок з буйным жвірам. Першыя, хто прыйшоў паглядзець, што робяць людзі на горцы, былі куры...





*Летні сьвяточны касьцюм дзяўчыны. Кобрынскі раён.*
*З кнігі:* ***Міхась Раманюк. Беларускае народнае адзеньне.***

Паквахтаўшы, яны хутка зніклі, а замест іх з'явіліся гусі і качкі. Потым прыйшла карова. Праз некаторы час да нашых раскопак падышла старэнькая бабуля. Крыху паназірала за маімі высілкамі, нарэшце гаворыць: "Брыдка́я ў цябе работа". Я пакрыўдзілася: "Чаму брыдка́я?" "Брыдка́я" — цвёрда адказала бабуля. Яна яшчэ трошкі пастаяла і пайшла назад, у вёску.
А мы па чарзе працягвалі капаць. Недзе праз паўгадзіны бабуля зноў з'явілася на горцы. У руках яна трымала слоік са смятанай, з кішэні сукенкі, пад фартушком, дастала па чарзе лыжку, лусту хлеба й вялікі чырвоны памідор. "Сядай і паеш, — проста сказала бабуля. — Адпачні". Праглынуўшы ўсё і падзякаваўшы старую (ад грошай яна адмовілася), я зноў узяла рыдлёўку. "Адкуль ты родам?" — запытала бабуля.
Я адказала. "А-а", — вымавіла яна, і я зразумела, пра што бабуля падумала, але не сказала, каб не пакрыўдзіць мяне: што я — чужая, не са сваіх. (Тады я сама яшчэ не ведала, што ўсе мае продкі паходзяць з Панямоння і Пабужжа і што гэтая зямля — мая радзіма, тут мае карані...)

Нарэшце паказаліся дошкі труны; хутка высветлілася, што яна захавалася цалкам. Паведаміўшы А., які ў той момант адпачываў ад капання, што мы ўжо дакапаліся да труны, у якой, мабыць, ляжыць нябожчык, я папрасіла яго дапамагчы адчыніць вечка. Рэакцыя А. была нечаканая для мяне: ён раптоўна знік з маіх вачэй, а на дарозе, што вяла да вёскі Росцевічы, дзе была наша база, узняўся моцны пыл. На месцы раскопак я засталася адна. Зусім раскапаўшы гэтую труну, паспрабавала адчыніць сама. Але века — вялікая дубовая плаха, прыбітая цвікамі, не адчынялася. Сонца тым часам хілілася на захад, дзень заканчваўся, а я сядзела каля раскапанай труны і не ведала, што ж рабіць: пакідаць на ноч адчыненую магілу — нельга, а сіл скончыць працу — не стае. На маё шчасце, з вёскі прыйшлі дарослыя і дзеці. "Дапамажыце, — прашу, — адчыніць труну". "Дух як дасць з той труны, дык усе паляжам", — адказаў нейкі дзядзька. "Лепш не адчыняць". "Але ж трэба яе вывучыць", — прасіла я. Пачалася спрэчка паміж мясцовымі; "дасць дух", "не дасць дух", — чулася паміж імі. Нарэшце вырашылі адчыняць. Хтосьці прынёс лом і асцярожна паднялі накрыўку. "Ну глядзі, што там табе трэба", — загадалі, трымаючы века, дзядзькі. "А можа, давай падамо табе на плечы гэтую труну і нясі яе сабе ў вёску, будзе табе экспанат". Адмовіўшыся ад "экспаната", я хуценька апісала пахаванне, зрабіла неабходныя замеры. "А цяпер, калі ласка, дапамажыце засыпаць магілу", — зноў папрасіла я. Гэтую працу яны дапамаглі зрабіць з вялікай ахвотай. На развітанне прынеслі мне рознай садавіны. Яны мяне шкадавалі...

## Раскопкі ў "Барку"

У 80-я гады пачала я даследаваць яцвяжскія старажытнасці і ў межах былога княства *Дэйнава*, што месцілася ў правабярэжжы Нёмана. Старажытны могільнік на краі пагорка, што каля самае вёскі Вензаўшчына Шчучынскага раёна, з'явіўся сапраўднай скарбніцай гісторыі яцвягаў. Шмат чаго, невядомага нам, навукоўцам, распавялі і мясцовыя жыхары; некаторыя асаблівасці і рысы пахавальных звычаяў даўніны яны і патлумачылі, і дапамаглі як след асэнсаваць. Аднак не заўсёды мае даследаванні ўспрымаліся добра. Неяк на пачатку раскопаў, калі ўжо адчынялі першыя магілы, да нас на пагорак паднялася старэнькая жанчына. І адкуль толькі сілы ў яе ўзяліся адолець такую горку! Трасучы кійком, бабуля ўчыніла мне разнос: "Што ты пораш гэты "Барок", тут воіны пахаваны. Дай ім спакой! Не тое, збяру мужыкоў па вёсцы, возьмуць яны коллі, мы табе пакажам, як рушыць магілы!" Так, выпадкова, я даведалася, як завецца могільнік і хто ў ім пахаваны. А ўвечары, папытаўшы, дзе жыве, пайшла я да бабулі, каб замірыцца, ды пагаманіць пра даўніну. Але бабуля была няўмольная. З'едліва спытала: "Што, бальшавікам ужо й косці нябожчыкаў спатрэбіліся?" На ўсе свае пытанні я чула адказ: "Не ведаю", "не памятаю"...

Заканчэнне на старонцы 5 ►►►

# “Кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай

*Ян Баршчэўскі*

“...Вузкія камяністыя дарогі, пераразаючы гарыстыя мясьціны й мінаючы дзікія берагі азёраў, хаваюцца ў пушчах...

У гэтых краях прайшлі мае дзіцячыя гады. Тут я пасьля таго, як разлучыўся з маладымі сваімі таварышамі па Полацкай акадэміі, не маючы пры сабе іншых кніг, апроч некалькіх лацінскіх ды грэчаскіх класікаў, блукаў у прыемных марах дзе-небудзь у цёмнай пушчы альбо па бязьлюдным беразе возера; любіў чытаць у кнізе прыроды, калі вячэрняй парою адкрыецца старонка, на якой мільёнамі зіхоткіх зорак угары напісана Божая ўсемагутнасьць. На зямлі, пакрытай безьліччу расьлін і жывёлаў, я чытаў аб міласэрнасьці й волі Творцы. Гэтая кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай паэзіі, сапраўдным пачуцьцям лепей, чым сёньняшнія гаваркія крытыкі...



*Там вясна – рай; самыя розныя птушкі, здаецца, зьбіраюцца з усіх канцоў сьвету, тысячы розных меладычных, дзікіх і чульлівых галасоў адгукаюцца над вадою па лугах і лясах.*

**Віньетка, малюнак.**

**З кнігі “Маляўнічая Расія... Літоўскае і беларускае Палесьсе”. 1882.**

Пасьля таго, як лёс закінуў мяне ў далёкія мясьціны, як жа часта самотныя думкі мае зь берагоў Нявы вяртаюцца ў гэты край, дзе прайшлі мае лепшыя гады жыцьця, дзе столькі мілых успамінаў малюе мне памяць! Бачу... ваколіцы Рабшчызны, дзе прырода ўзьняла высокія горы, быццам паверхі велізарных гмахаў. Стагоддзі пакрылі іх ценем лясоў; некаторыя пад пагодлівым сонцам зьзяюць залатым пяском. Якія там разнастайныя краявіды, якія цудоўныя малюнкі! Калі хто, будучы ў гэтым краі, ўзышоў на вяршыню Пачаноўскай гары і глядзеў на абшары дзіклівых ваколіцаў, дык бачыў, як азёры тут і там, нібы люстэркі, адбіваюць дзённы прамень, а над іх берагамі дрэмлюць густыя лясы...

Бліжэй да Полацка возера Нешчарда на некалькі міль залівае разлог, падмывае хвалямі ўзьбярэжныя пясчаныя горы, на поўдзень — шырокія паплавы, усеяныя купамі лазьняку, сям-там рэчкі, бегучы здалёк між чароту, хаваюцца ў разьліве азёрнай вады. Там вясна — рай; самыя розныя птушкі, здаецца, зьбіраюцца з усіх канцоў сьвету, тысячы розных меладычных дзікіх і чульлівых галасоў адгукаюцца над вадою па лугах і лясах: енк зязюлі, пошчак салаўёў, голас бугая ў чароце, рэзкія крыкі качак... Гэтая дзівосная суладнасьць, гэты канцэрт прыроды пераносілі мае ўяўленьні ў нейкі чарадзейны рай.

І цяпер гэтыя мясьціны, дзе ў маленстве я бачыў столькі цудаў прыроды, гэтыя гаі, гэтыя зялёныя берагі Нешчарды памяць малюе мне, нібы прысьнёны сад. Прыпамінаю народныя расповяды-паданьні гэтага краю пра горы, дрэвы, Нешчарду, якія ходзяць сярод простага люду; і хоць у яго апавяданьнях цяжка знайсьці поўную праўду, аднак можна бачыць нейкі сьлед мінуўшчыны гэтых ваколіц, бо яшчэ дагэтуль у некаторых мясьцінах можна назіраць валы, узьнятыя чалавечаю рукою; гэта, бясспрэчна, сьляды войнаў, пра якія ня ўспомніў аніводзін гісторык. Часам погляд сустрэне капцы, пакрытыя лесам. Можа, у цені шумлівых хвояў спачывае там які-небудзь воінік, імя якога даўно забытае...

## “Прысьнёны сад” Яна Баршчэўскага

***Менавіта гэтак, словамі аўтара мусіш сказаць пра “Нарыс паўночнае Беларусі” Яна Баршчэўскага (1790 — 1851) — аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Яшчэ ў Полацку (амаль 200 гадоў таму), будучы шкаляром, ён пачаў складаць вершы, у час вакацыяў браўся за пэндзаль, рабіў вандроўкі ў ваколіцах роднай вёскі Марогі, быў жаданым на кожным сялянскім ганку. Як выдавец і літаратар выявіў сябе ў Пецярбургу, адкуль штогод, асабліва вясной, выпраўляўся пешшу ў свой “прысьнёны сад” — у родныя мясьціны на Віцебшчыне. З кіем у руках абыходзіў сялянскія хаты, зьбіраў легенды, запісваў песьні, балады... Фрагменты з “Нарысу” падаём паводле кнігі Яна Баршчэўскага “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданьнях” (Менск, “Маст.літ.”, 1990).***

Беларусь, як і іншыя народы, памятае яшчэ некаторых сваіх міфалагічных бажкоў. *Русалкі*, калі жыта красуе ў полі, з распушчанымі доўгімі валасамі гушкаюцца ў бярозах і сьпяваюць песьні, іхні сьмех адгукаецца ў глыбіні лясоў і трывогай працінае тых, хто зьбірае грыбы або ягады. *Лясны бог* — пан дзікіх пустэчаў; каб чалавечы зрок ня мог яго згледзець, ён пад рознымі выглядамі хаваецца ў сваіх уладаньнях; мінаючы лугі, зьмяншаецца так, што яго й не прыкмеціш у густой траве; ідучы праз пушчы, раўняецца з самымі высокімі хваінамі. Ён апякун зьвяроў і лясных птушак. Кажуць, што бачылі велізарныя чароды вавёрак, якіх лясны бажок перапраўляў з адной пушчы ў другую; ён рабіў гэта, каб выратаваць іх ад агню, бо прадбачыў, у якім баку здарыцца пажар.

...23 чэрвеня (стары стыль — *рэд.*), пасьля заходу сонца, адбываецца *Купальле*, або Сьвята Купалы; уначы шукаюць скарбаў; самы шчасьлівы той, каму пашэньціць сарваць кветку папараці, яго зрок у глыбіні зямлі прыкмячае закапаныя скарбы, і ён столькі можа мець золата, колькі сам захоча. Кабеты разам зь юнакамі й дзяўчатамі каля вогнішчаў са смаловага паленьня чакаюць



***Адказы на крыжаслоў, які быў зьмешчаны ў №2***

**Па гарызанталі:**

*5.Сіваваронка. 6.Сазан. 7.Лотас. 10.Азалея. 11.Хахуля. 14.Куток. 15.Івач. 16.Ручай. 17.Бяроза. 18.Шчыгол. 21.Зефір. 23.Ізюбр. 26.Блыха. 27.Нектар. 28.Таполя. 29.Сезон. 30.Абшар. 31.Гарыхвостка.*

**Па вертыкалі:**

*1.Філагенія. 2.Званочкі. 3.Пралеска. 4.Аквамарын. 8.Парк. 9.Зубр. 12.Румянец. 13.Чаромха. 19.Пералесак. 20.Курапатка. 22.Рака. 24.Заманіха. 25.Бергамот. 26.Брод.*

# паэзіі...”

усходу сонца, сьпяваюць песьні:

*Іван ды Мар'я,*
*На гарэ купальня,*
*Дзе Іван купаўся,*
*Бераг калыхаўся;*
*Дзе Мар'я купалась,*
*Трава рассыцілалась.*

...На думку простага народа, уся прырода ў гэтую ноч весяліцца. Рыбакі бачаць азёрнэе люстра, якое часам раскашуе ў месяцавым зьзяньні, і хоць неба яснае і паветра спакойнае, бліскучыя хвалі, удараючы ў берагі, разьбіваюцца на кроплі, якія, нібы зоркі, сьвецяцца ў паветры...

Дрэвы ў лесе таксама могуць пераходзіць з аднаго месца на другое; шумам сваіх галін яны размаўляюць паміж сабою; апавядаюць, што нехта, блукаючы гэтай ноччу ў лесе, знайшоў кветку папараці і бачыў не адно скарбы, схаваныя ў зямлі, але й незвычайныя дзівы ў прыродзе; разумеў гаворку кожнага стварэньня; чуў, як дубы сыходзяцца з розных мясьцінаў і, зрабіўшы кола, гамоняць шолахам галін, прыгадваючы, быццам старыя ваяры, свае геройскія ўчынкі і даўнія заслугі...



*Беларускі пейзаж. Малюнак. З кнігі "Маляўнічая Расія... Літоўскае і беларускае Палесьсе". 1882.*

Апрача згаданых цудаў, ёсьць яшчэ, як мяркуюць тутэйшыя жыхары, чароўныя травы. *Разрыў-трава* можа дзівосна ўзьдзейнічаць на жалеза, разрывае нібыта замкі і кайданы ў вязьняў; калі каса натрапіць на яе на лузе ў час сенакосу, дык расколецца на некалькі частак. *Пералёт-трава,* або лятучае зельле; расказваюць пра яе, што яна мае здольнасьць пераносіцца з месца на месца, яе вясёлкавая кветка надзвычай жывая й прыгожая, а ў сваім палёце часам блішчыць быццам зорачка. Шчасьлівы, хто яе сарве, бо не зазнае ён перашкодаў у сваім жыцьці, адразу споўняцца ўсе яго жаданьні, і гэтая трава — трава шчасьця. Людзі, марачы пра шчасьце на гэтай зямлі, малююць яго ў розных вобразах; грэкі і рымляне верылі ў сьляпую Фартуну, што круцячы вечнае кола, уздымае людзей пад аблокі і зноў апускае ў бяздоньне. Беларускі народ уявіў сабе нейкую лятучую траву, гонячыся за якой не адзін зьбіўся з дарогі і не вярнуўся да свае роднае хаты. І я, шукаючы яе далёка, кінуў гэтую родную старонку, дзе прайшлі самыя прыемныя дні майго жыцьця, і цяпер у паўночнай сталіцы, паглядаючы на тэатр вялікага сьвету, чытаю кнігу, што часам сьмешыць, часам прымушае ліць сьлёзы..."

**1843**

SUMMARY

**"A Dreamed Orchard", this is how one of the creators of a new Belarusian literature Yan Borshchevski (1790-1851) calls his native northern Belarus. The fragments from the essay in which the author sings of the beautiful sites which stamped themselves in his mind from his childhood, p. 4, 5.**

►►► *Са старонкі 3*

## З ласкі пана Міхала

Гады два таму я зноў апынулася ў Шчучынскім раёне, у межах Дэйнавы. Згодна з сабранымі звесткамі, у ваколіцах вёсак Бакшты, Плёткі, Мацюкі і іншых знаходзіліся старыя яцвяжскія пахаванні. З цяжкасцю здабыўшы грошы на раскопкі, рушылі ў вёску Плёткі, дзе былі аж тры старыя могільнікі. Але ніводны з іх ужо не існаваў: усе былі разбураныя. Седзячы на пляцоўцы аднаго былога могільніка ды гледзячы на раскіданыя чалавечыя косці, я горка думала пра тое, што экспедыцыя пачалася няўдала, што трэба вяртацца і шукаць новае месца для працы, што пакутнікам-яцвягам і пасля скону няма месца на роднай зямлі, што... І раптам на дарозе з'явіліся двое старых. Падыйшлі, павіталіся. Адзін уважліва паглядзеў на мяне, ціха сказаў: "У лесе ёсць "шведскія магілы". Памаўчаў і дадаў: "Сёння вялікая гарачыня і я не змагу адвесці цябе паказаць гэтае месца. Лепш заўтра, да спякоты".

Так дзякуючы пану Міхалу Хвайніцкаму я даведалася пра яцвяжскія пахаванні канца першага тысячагоддзя нашай эры, крыху пазней знайшлі і паселішча гэтага ж часу, а потым — і ўзгорак, дзе раней было свяцілішча. З ласкі пана Міхала даведалася, што месца, дзе знаходзіцца паселішча, завецца "Селішча", рачулка, што працякае побач, — Латачок (дарэчы, на сучасных картах яна пазначана як безыменны ручай), а лес, якім затулены стары могільнік, мае назву Мазігай. У перакладзе з літоўскай мовы"мазі" значыць "невялікі", а "гай" — "лес". Больш за тое. Аказваецца, раней кожны кавалак зямлі — пагорак, нізінка, паша ды іншае — мелі свае назвы-імёны...

## Уваходжанне ў Пушчу

Абставіны складваліся так, што я не мела магчымасці праводзіць даследаванні ў Пабужжы, якое — гэтак жа, як і Панямонне, — ёсць старажытнай зямлёй яцвягаў. Трапіла сюды толькі ў 1994 годзе. Невялікія раскопкі старажытных курганоў зрабілі каля вёсак Свішчава і Трасцяніца, што ў Камянецкім раёне. А залетась пашчасціла папрацаваць у Белавежскай пушчы. Ніхто і ніколі не даследаваў тут археалагічныя ды гістарычныя помнікі, таму і былі яны для нас. навукоўцаў, невядомыя. Як і ў Панямонні, шмат давялося гутарыць з мясцовымі жыхарамі. Колькі вёрстаў прайшлі мы скрозь Пушчу — не ведаю, але гэтае ўваходжанне было надзвычай выніковае. Знайшліся тут і курганы, і свяцілішчы, і старажытныя паселішчы. Працы — на многія гады. Як і ў Панямонні, вялікую паслугу зрабілі людзі. Часам, адклаўшы ў бок сваю працу, яны чым маглі памагалі нам.

Летам 1995-га стаяла надзвычайная спякота, абмялелі рэкі, зрабілася цвёрдай, што камень, зямля. Стомленая прырода чакала дажджу. Аднойчы, калі спякота, здавалася, здолее нас зусім, я не вытрымала і запытала ў жанчын: хіба ж не ведаюць яны, што трэба рабіць, калі патрэбны дождж? Яны адказалі, што ведаюць, аднак гэтага самі яны не рабілі, а вось у суседняй вёсцы, дык там і напраўду прасілі дажджу... Вось раней, працягвала я распытваць, калі якая хвароба ці іншая навала прыходзілі ў вёску, жанчыны ўвечары збіраліся ў хату і сядалі за кросны, каб ад заходу да ўзыходу сонца саткаць палатно, а потым на ранку абнесці ім вёску, і такім чынам здолець бяду. Ці робяць гэта цяпер? Так, робяць, — пачула ў адказ... Вось раней, кажу, у труну нябожчыку клалі сякеру ды іншыя рэчы. А ці робяць зараз? Не, не ў труну. Сякеру кладуць на падлогу, пад лаўку, на якой стаіць труна з нябожчыкам. А дзеля чаго? — пытаюся. Так трэба... Вось раней былі святыя крыніцы і дрэвы, людзі хадзілі да іх памаліцца за сябе і сваякоў, набраць гаючай вады. А ці ёсць такія крыніцы і дрэвы цяпер? Так, ёсць. І мне распавялі, як яшчэ нядаўна хадзілі да грушы, што каля вёскі Бушмічы, насілі з сабою невялікія крыжыкі, якія ўтыкалі ў зямлю побач. А яшчэ вельмі добрая вада з крыніцы каля Жыровіцаў, туды таксама хадзілі, калі была патрэба. Шмат крыніцаў з гаючай вадой ёсць і ў Пушчы.

Даведаліся мы і пра святы камень, на якім ёсць адбіткі нагі "Божай Маці", што каля вёскі Брады. Пад каменем тым — крыніца. Мы наведалі гэтае месца. Адбіткі і сапраўды вельмі падобныя на босую чалавечую ступню. Штогод у свята *зялянец* (свята памінання продкаў) сюды ідуць людзі, нясуць, як і шмат вякоў таму, розныя падарункі: цукеркі, печыва, грошы, стужкі ды іншае. Раз на год яны прыходзяць разам, каб засведчыць продкам еднасць і згоду паміж сабой, падтрымаць сувязь з душамі памерлых і атрымаць ад іх благаславенне і дапамогу. Пошукі помнікаў даўніны прывялі нас у вёску Студзенікі, што ў Свіслацкім раёне. Тут пачулі мы пра абрад абвяшчэння хатняй жывёлы, што памёр гаспадар (або гаспадыня), каб не было ўбытку ў гаспадарцы. А яшчэ ў вёсцы быў калісьці калодзеж з гаючай вадой. Каб збылося патаемнае жаданне, людзі кідалі ў яго грошы... А яшчэ мы сустрэліся з людзьмі, якія вядуць сваё паходжанне ад яцвягаў... А яшчэ на вуглах многіх хатаў бачылі выяву: ромб з кропкамі ўнутры яго — старажытны сімвал засеянага зернем поля. Часта бачылі і стралу — сімвал Бога-Абаронцы Пяруна (Пяркунаса у літоўцаў); выяву сонца — сімвал вечнага цяпла і святла; выяву жанчыны — сімвал маці-зямлі і ўрадлівасці; галаву каня або падковы — засцерагальнікі ад злой сілы...

Стаўлю шматкроп'е.
І напаследак зычу:

Няхай пад аховаю гэтых сімвалаў-выяваў жывуць, не ведаючы гора мае землякі, нашчадкі старажытнага яцвяжскага краю. Жывуць у згодзе-спакоі, з верай і спадзяваннем на ўсё лепшае. Іхняя шчырасць, ветласць, дабразычлівасць і гумар будуць заўсёды мяне абнадзейваць, клікаць у дарогу, на нязведаныя гістарычныя шляхі Беларусі.

SUMMARY

***Archeologist Alla Kvyatkovskaya shares her impressions about excavations in the western region of Belarus, and returns to the roots of an ancient Yatvyagi tribe, which inhabited Fushcha's land in the old days, p. 3, 5.***

**Правапіс арыгінала захаваны.*



# Волат з добрай багатай душой

**Пра якое ягонае выміраньне можна весьці гаворку? — спытаеце вы. — Ён расьце ў нас ад веку!..**




***Станіслаў Шкадзінскі***



❖❖❖

*Станіслаў Шкадзінскі. Інжынер-эканаміст, педагог.*

*Родам з Узьдзеншчыны, з берагоў рэчкі Узьдзянкі — левага прытоку р. Усы, што ў басейне Нёмана. Маючы багаты жыцьцёвы досьвед, вялікі запас асабістых назіраньняў, шмат піша на тэму аховы прыродных каштоўнасьцяў, перш наперш такіх як рэчкі і лес. З навукова-папулярнымі, публіцыстычнымі артыкуламі выступае ў розных выданьнях.*



**Г**авораць, стары друг лепш за новых двух. Што пажадаеш для свайго друга, на карысьць табе й пойдзе. Лес — наш самы старадаўні друг з усіх, бадай, якія яшчэ жывуць. Як прадстаўнік вышэйшай расьліннасьці, ён паявіўся ў нашай мясцовасьці прыкладна каля 400 мільёнаў гадоў таму. У расьлінным сьвеце лес займае найважную ступень і, безумоўна, сцьвердзіў грандыёзную ролю ў біялагічным асваеньні зямлі, у жыцьці чалавека. Гэтую ролю ён выконвае да канца.

Я маю на ўвазе наш беларускі лес. Сёньня яму як ніколі цяжка. Наш старадаўні друг захварэў і пачаў паміраць. Тым, хто не бывае ў лесе, або ня надта назіральны, ці не аматар прыроды, — можа падацца нават інтрыгаю: "Як так, лес сам па сабе гіне? Гэтага ня можа быць. Ён жа ў нас расьце ад веку!"

Гэта было праўдай, пакуль мы жылі ў дружбе з прыродаю.

**Я**к ні ў адной іншай краіне, лес у Беларусі рос высокі й харошы, не патрабуючы амаль ніякай асаблівай турботы. Гэткі спасланы дар — дар міласэрнай прыроды. Геаграфія і экалогія лесу былі шмат гадоў убаку, забытыя. Гаворка, дый наогул дасьледваньне, датычылі ці не адной тэмы: выкарыстаньне, альбо спажываньне лесу. Пра ягонае здароўе ніхто й ня думаў, — маўляў, "у нас невычэрпныя прыродныя багацьці". Мы нават не здагадваліся: чаму расьце гэткі волат-велікан з такою добраю й багатаю душою і ня просіць "хлеба". У сваёй большасьці мы не зважалі на яго вялікае і таямнічае жыцьцё. Хіба што маляўнічая літаратурная думка Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Зьмітрака Бядулі, Міхася Чарота ды іншых аўтараў ня раз падбухторвала нас: так, лес — наш вялікі сябар, але ён варты ўвагі і клопату.

**З**ь дзяцінства я любіў геаграфію. І першым маім падручнікам, які даў мне бацька, была "Геаграфія Бацькаўшчыны", якую напісаў наш зямляк прафесар Аркадзь Смоліч (1891 — 1938). У тым падручніку вельмі цікава гаварылася пра лес. "Шануйце дрэвы, лес — гэта наша багацьце", — пісаў аўтар. На вялікі жаль, кнігі Смоліча былі забароненыя. Як педагог, сцьвярджаю: прырода роднага краю, экалогія — ня толькі наш дом, дзе жывём-гадуемся, але й школа выхаваньня добрых пачуцьцяў, нашай духоўнасьці.

**К**аму вядома, а каму й не: расьліннасьць — гэта ў першую чаргу для нас лес. Як галоўная частка жывой прыроды. Зьяўленьне расьлін, іх далейшы стан былі, вядома ж, зьвязаныя з вадою, зь вільготным кліматам. Гэтая акалічнасьць была загадкаваю не адно для "простага народа", але й для вучоных. Хацелася раскусіць сэнс таямніцы, спазнаць мудрасьць прыроды. На жаль, дасьледваньні вучоных Каржыцкага, Дакучаева, Шафранава, Высоцкага, Рагавога аб сувязі лесу з гідралагічнымі ўмовамі, аб наяўнасьці грунтовай вады як уплывовага паказьніка, былі забытыя, ці, дакладней, незапатрабаваныя. Настаў час расквітаца за сваю адсталасьць, глухату, пыхлівае "ўсязнайства".

**В**ада... Ня тая, што прыйшла і пайшла. А тая, што заўсёды з намі, менавіта — грунтовая. Яе прысутнасьць — паказьнік цудоўны. Але яна ж — паказьнік нашых праблем і ўпушчэньняў. Што такое грунтовая вада? Што такое ваданосныя пласты? Пра гэта ў нашай літаратуры ўсебакова аргументаваных адказаў надзвычай мала. Маю на ўвазе адсутнасьць доказаў залежнасьці расьліннага царства, лесу ад наяўнасьці й глыбіні знаходжаньня верхняпластовай грунтовай вады. Асабліва што датычыць Беларусі, дзе лес займаў і займае значную плошчу тэрыторыі і адметную долю ў гаспадарчай дзейнасьці. Выказваньні асобных вучоных калі й былі, дык заставаліся на паперы, не пачутымі. А.Смоліч, прыкладам, зазначаў, што ёсьць непасрэдная сувязь жыцьця лесу з нашым вільготным кліматам, непасрэдна з вадою, безумоўна, з грунтовою. І гэта не проста ўмовы — а патрэбнасьць лесу, выпрацаваная ягонай прыстасаванасьцю да разьвіцьця. Лес і вада — адно цэлае, адно стварэньне. Да такой выразнай высновы яшчэ ў XIX стагоддзі прыйшлі спачатку польскі вучоны й пісьменьнік Фідлер, а затым дацкі батанік Ірмшэр.

**А**саблівасьць лесу як расьліннасьці таксама ў тым, што ён — волат-гігант — шукаў і знаходзіў сам сабе ежу, ды яшчэ іншых карміў, ствараў для іх ідэальныя ўмовы існаваньня. Заўважце: звыш сотні розных каштоўных расьлін могуць жыць толькі ў нашым лесе. Амаль усе птушкі, дзікія жывёлы або заўсёды жывуць у лесе або непасрэдна зь ім зьвязаныя, залежаць ад яго.

**Ч**аста задумваюся: ці ня ўтойваў лес першачарговую ўмову свайго жыцьця — што яму так патрэбна грунтовая вада, што

паміж ім і вадою існуе жорсткая залежнасьць? Прырода часам прадбачліва прыхоўвае ісьціну. Можа, каб абараніцца, не наклікаць злыбяду, "на ўсялякі выпадак" засьцерагчыся ад чалавека, які намагаецца ўсё падпарадкаваць сваёй волі і разуменьню.

Помню, калі я быў малады настаўнік, адзін вучань спытаў у мяне: "Чаму ў адным мейсцы, напрыклад, у нас, лес расьце, а ў другім, як у стэпе, не?" Або: чаму ў нас расьце высокі, будаўляны лес, а дзесьці — ўвесь кудзеркамі, чахлы й невысокі. Чаму ў адных месцах пераважае хвойны, а ў другіх — лісьцёвы?.. І яшчэ шмат пытаньняў было ў школе. Большасьць іх не знаходзілі адказаў, бо лічыліся малаважнымі, дробязнымі. Цяпер, калі за галовы ўзяліся ад зьдзіўленьня сваёй экалагічнай адсталасьці й бездаказнасьці, "дробязныя" пытаньні вырасьлі ў праблемы, ад якіх залежыць не адно жыцьцё лесу, але й жыцьцё чалавека.

**Ш**мат, вельмі шмат на сьвеце абшарын, дзе лес даўно зьвялі, ён загінуў у асноўным з-за асушэньня плошчаў. Беларусь да апошняга часу трымалася, была унікальная па сваіх лясных багацьцях.

Аднак за апошнія 50 гадоў плошча нашых лясоў намнога паменшылася. Нямецка-фашысцкія акупанты зьнішчылі каля 80 адсоткаў будаўлянага лесу. У 50-я гады большасьць лесу была аддадзена ў карыстаньне калгасаў і саўгасаў; лес тады секлі як ніколі — каму заўгодна, безь ніякага на тое дазволу. Да таго ж калектыўным гаспадаркам нявыгадна было трымаць лес, бо лес — гэта выгада ў перспектыве. Ягоная экалагічная ці эстэтычная значнасьць ня надта ўпісвалася ў сьветапогляд пераважна вузкіх гаспадарнікаў.

**Я**кая ж цяпер у нас плошча лесу? Тут бачым вельмі цікавыя лічбы. Накшталт рэчак. Помніцца, яшчэ на пачатку 20-х гадоў на тэрыторыі сёньняшняй Беларусі налічвалася 19,3 тысячы малых рэчак. Па гэтых зьвестках Беларусь займала адно з найлепшых ступеняў у сьвеце, менавіта — па каэфіцыенту гушчыні рачной сеткі (адносіны сумы даўжыні ўсіх рэчак да плошчы тэрыторыі рэгіёну). Афіцыйна значыцца, што ў часе меліярацыі было "каналізавана" 1600 малых рэчак. Вядома, што яшчэ больш высахла ў выніку апусканьня ваданосных пластоў. Усе гэтыя рэчкі ў рэшце рэшт страцілі ўсялякае значэньне, іх рэчышчы разораныя. Цяпер паглядзіце ў даведнікі: колькі ж налічваецца малых рэчак? Высьвятляецца, тая ж самая колькасьць, што і раней!

Нешта падобнае і зь лесам. Вялікая плошча яго развораная, яшчэ большая — засталася ў выглядзе хмызьнякоў, кустоў, зарасьнікаў. Будаўлянага, сьпелага лесу амаль не засталося. Але 30 адсоткаў лесу ад усяе плошчы як было запісана, так і ёсьць.

**У** лясах Беларусі пераважаюць хвойныя пароды, так званы ігласты лес — хвойка ды елка. Яны займалі дзьве трацiны ўсіх драўнінных парод. Цяпер, як падаецца, лёс іх у небясьпецы. Апошнія гады, асабліва з 70-х, у некаторых месцах хвойны лес пачаў хварэць, высыхаць. Цяпер гэтая зьява запанавала на ўсёй тэрыторыі. Галінкі, ігліца асыпаюцца. Смала-жывіца амаль не выцякае. Стала шмат вываратняў, асабліва елак, дрэвы ломяцца ў любым месцы камля. Проста так, як саломінка. Часам бачыш цэлыя дзялянкі паваленых дрэў. Яны паваліліся самі, бо камель зрабіўся крохкі, трухлявы і не трымае ўжо нават палягчаную крону... Журботны выгляд такіх дзялянак сьведчыць пра тое, што дрэвы тут цяжка захварэлі ад нястачы грунтовай вады.

Скаргі будаўнікоў, што драўніна ня "смолкая", хутка трухлее і гіне, — чуеш паўсюль. А паваленыя, хворыя дрэвы годныя толькі на паліва. Ня будзе дзівам, што старыя пабудовы з трывалага здаровага лесу па сёньняшні дзень стаяць нібы звон.

**Л**ісьцёвы лес пакуль не падпаў хваробнай немачы й высыханьню дзякуючы таму, што ён менш зьвязаны з грунтовай вадою і пажыўныя рэчывы бярэ з атмасферы. Аднак і тут назіраецца парадзеньне, бо таксама бракуе вады "зьнізу". Ёсьць нямала прыкладаў, калі і садовыя дрэвы пачалі паміраць раней свайго веку. Камялі, галіны яблыняў лёгка ломяцца; рашчэпы нагадваюць трухленьне, старэньне. Гэта таксама "новыя" выпадкі, якіх ніхто ня помніць. Трэба меркаваць, што гэта той жа працэс выміраньня дрэў, як і лясных — хвояў і елак. Асноўная прычына — агульная: ня стала паблізу ваданосных пластоў.

Іх апусканьне ў выніку зьнікненьня шматлікіх адкрытых вадаёмаў, якія ў нашай мясцовасьці былі галоўным гарантам ваданоснага гарызонта, распаўсюджваецца па ўсім навакольлі згодна з фізічным законам аб спалучальных сасудах. Вядома, што ў нашай мясцовасьці водатрывалыя грунты вертыкальнага разьмяшчэньня адсутнічаюць. Ёсьць пераважна гарызантальныя ў выглядзе гліны. З гэтай прычыны ваданосныя пласты знаходзіліся ў двух узроўнях: верхні і ніжні. Што да жыцьця расьлін, лесу, дык яны маюць дачыненьне толькі да верхняга пласта (ва ўмовах Беларусі на глыбіні ад 1 да 3 метраў). А ён сам аказаўся пад пагрозаю выміраньня. Апроч таго, хімія, глабальнае радыяцыйнае забруджаньне зрабілі гэты пласт непрыдатным па нормах і стандартах, якія патрэбны расьлінам. Раней казалі, што катастрофа, калі й прыйдзе, дык аднекуль. "Не трэба чакаць катастрофы, — заўважыў хтосьці пазьней, — яна ўжо прыйшла".

**П**тушкі, па маіх назіраньнях, першымі адчулі прыход вялікай бяды. Скажыце, чаму так мала птушынага сьпеву ў нашым лесе? Лес — як аглух. Канешне, на прапажу птушак, асабліва лясных, пеўчых, можна глядзець па-рознаму, але ў прыродзе ўсё так зьвязана-перавіта, што з наступленьнем перыяду выміраньня нашага самага старадаўняга дабрадзея я зьвязваю і нязвыклую для беларускага лесу птушыную сьцішнату.

**К**алі гаворым пра лес, штораз вяртаемся да яго эстэтычнага напаўненьня. Адзін толькі выгляд — непаўторная прыгажосьць. Як вялікі дабрадзей, ён заўсёды нас кліча ў госьці: прыйдзі, кліча ён, адпачні ад жыцьцёвых турботаў, залячы душэўныя раны. Тут райская прахалода, чароўныя гукі, мелодыі адвечнага шуму і птушак. У мяне шмат красак і лекавых зёлак, ягад, грыбоў...

Кампазітар Станіслаў Манюшка (1819 — 1872) — наш зямляк, які ўсе свае творы напісаў на "матыў Беларусі", аднойчы даведаўся, што мясцовы памешчык, уласьнік таго лесу, дзе была сядзіба кампазітара, наважыў прадаць, высекчы лес. Манюшка паехаў да губернатара, каб той забараніў высякаць. "Нашто Вам так шмат лесу?" — зьдзівіўся губернатар. "Мне трэба лес, каб пісаць, ствараць музыку," — адказаў кампазітар. Яму давялося заплаціць вялікую суму грошай памешчыку толькі за тое, каб той ня сек лес. На жаль, гэта здарылася потым. Пакрыўджаны Манюшка паехаў назаўсёды...

*Ад рэдакцыі.*

**Спадзяёмся, чытач пераканаўся ў шчырай прыродазаступніцкай пазіцыі аўтара, ягоным грамадзянскім неспакоі. Улічваючы публіцыстычны, папулярны выклад складанай тэмы, артыкул прапануецца для далейшага ўсебаковага абмеркаваньня.** ■

## Што можа ўрад
### (разам з прыватным сектарам эканомікі, недзяржаўнымі ды іншымі групамі)

- ***Павялічыць пасадкі новых лясоў, зьніжаючы нагрузку на асноўныя лясныя фонды і старыя лясы. Засяваць дзялянкі між дрэваў карыснымі культурамі для павышэньня каштоўнасьці лесу***
- ***Выводзіць пароды дрэваў, больш прадуктыўныя ды больш устойлівыя да экалагічных нагрузак***
- ***Зьмяншаць колькасьць забруджвальных рэчываў, якія ўплываюць на стан лесу, у тым ліку трансгранічныя выкіды***
- ***Выкарыстоўваць экалагічна правільную, больш эфектыўную і менш "брудную" методыку лесапавала, пашыраць вытворчасьць дрэваапрацоўкі ў раёне лясных абшараў***
- ***Скараціць да мінімуму драўнінныя адходы, садзейнічаць разьвіцьцю малых прадпрыемстваў, якія скарыстоўваюць лясную прадукцыю***
- ***Павялічыць дабавачную цану за кошт працэса другаснай апрацоўкі лясной прадукцыі з мэтай павелічэньня занятасьці і даходаў ад кожнага нарыхтаванага дрэва***
- ***Разьвіваць гарадзкую лесагаспадарку для азеляненьня ўсіх жылых раёнаў***
- ***Пашыраць выкарыстаньне такіх лесапрадуктаў, як лекавыя расьліны, фарбавальнікі, фураж, стымуляваць працу мясцовых майстроў-умельцаў***
- ***Заахвочваць тыя віды прыдатнасьцяў лесу, якія прычыняюць мінімальны ўрон, напрыклад, экалагічны турызм***
- ***Садзейнічаць рацыянальнаму кіраваньню прылеснымі тэрыторыямі, каб зьніжаўся ўрон і ўціск***
- ***Ствараць і пашыраць сістэму ахоўваемых тэрыторыяў з мэтаю захаваньня часткі лясоў***

*1992, Рыа-дэ-Жанейра*



SUMMARY

***The author Stanislav Shkadinski questions the future of the Belarusian forests, explaining it by the catastrophic hydrological conditions: as a result of a destructive melioration, the upper layer of the ground water, closely linked with the vegetable kingdom, appears to be under the threat of disappearing, p. 6, 7.***

# НЕРУШЫ SANCTUARIES

## Бярэзінскаму біясфернаму запаведніку

# Еўрапейскі Дыплом

### Чынная ўзнагарода ўручана 12 красавіка 1996 года ў Менску

*Крыху ўзбоч ад крыклівай палітыкі, падзея ня мела належнага рэзанансу ў грамадзтве; нават нашы найбольш дасьведчаныя суайчыньнікі паціснуць плячыма, калі спытаць іх пра гэты несумненны факт гонару й аўтарытэту беларускай дзяржавы. Але самая "квінт-эсэнцыя" падзеі не ў прызнаньні вялікіх заслуг, а большым чынам у тым, да чаго абавязвае прэстыжная ўзнагарода, – у ступені экалагічнай дысцыпліны, на якую пастаўлена краіна-абраньніца.*

*"БП" мае за гонар і абавязак вярнуцца да ўшанавальнай імпрэзы і падае колькі выступаў яе ўдзельнікаў у перакaзе альбо скарочаным варыяньце.*

**Доктар**
*Фердынанда Альбанезе,*

***дырэктар Дэпартамента Рады Еўропы па праблемах навакольнага асяроддзя і рабоце з мясцовымі ўладамі.***

Магчыма, некаму дзіўным падасца сам факт, што Рада Еўропы – палітычная міжурадавая арганізацыя, вядомая сваёй дзейнасьцю ў рамках Канвенцыі "Аб правах чалавека", – займаецца праблемамі захаваньня прыроды або, як цяпер гэта спрэс называюць, "захаваньня біялагічнай разнастайнасьці". Фактычна ж уся гэтая дзейнасьць цалкам палягае на вызначальных прынцыпах арганізацыі і можа быць падсумаваная як дапамога ў паляпшэньні якасьці жыцьця праз:

* гарантаваньне правоў чалавека;

* развіцьцё дэмакратыі на мясцовым, рэгіянальным і нацыянальным узроўнях;

* аказаньне дапамогі ў сферы аховы здароўя, у сферы адукацыі;

* наданьне сацыяльных гарантыяў;

* захаваньне архітэктурнай /гістарычнай/ спадчыны;

* зьберажэньне навакольнага асяроддзя.

Рада Еўропы ўжо шмат гадоў актыўна працуе па ўсіх названых кірунках. Што да сферы зьберажэньня навакольнага асяроддзя, дык звязаная з гэтым праграма мерапрыемстваў ажыцьцяўляецца з 1962 года і была распрацаваная згодна з рэкамендацыямі Парламенцкай асамблеі.

Шмат гадоў Рада Еўропы займалася ўсімі аспектамі навакольнага асяроддзя, але пачынаючы з 1973 года мы адчулі неабходнасьць у больш канкрэтнай канцэнтрацыі нашых высілкаў на захаваньні прыроды, прыкладам, на ахове відаў у дзікай прыродзе, зберажэньні ландшафтаў, кіраваньні разьвіцьцём сельскай мясцовасьці, на блоку "турызм і навакольнае асяроддзе", водна-балотных абшарах...

Апроч выкладаньня рэкамендацыяў, адрасаваных краінам-сябрам Рады Еўропы, мы бралі ўдзел у складаньні найважнага дакумента – Канвенцыі па захаваньні еўрапейскай дзікай прыроды і прыродных сялібаў, так званай "Бернскай канвенцыі", якая была прынятая 33 краінамі, у тым ліку дзяржавамі, якія не зьяўляюцца сябрамі Рады, менавіта як Сенегал, Туніс, Буркіна-Фасо. Гэтая Канвенцыя мае зь сябе выдатны механізм разьвіцьця супрацоўніцтва, і мы спадзяёмся, што Беларусь здолее ў бліжэйшы час ратыфікаваць яе!

Гэтую прэстыжную ўзнагароду, заснаваную 25 гадоў таму, можна без сумненьня ўважаць за адзін з найбольш эфектыўных сродкаў аховы й зьберажэньня адметных па сваёй значнасьці прыродных куткоў Еўропы. Дыплом прысуджаецца аб'ектам, якія маюць еўрапейскую каштоўнасьць з пункту гледжаньня фауны, флоры і ландшафта ды высокай ступені іхнай захаванасьці. Такія аб'екты падзяляюцца на розныя катэгорыі паводле таго, што ёсьць мэтай: альбо поўная захаванасьць і абарона, альбо гарманічнае спалучэньне захаванасьці прыродных рысаў і каштоўнасьцяў з пэўнымі відамі дзейнасьці чалавека. Працэдура прыняцьця рашэньня аб прысваеньні Дыплома досыць складаная і жорская, уключае абавязковае правядзеньне экспертнай ацэнкі непасрэдна на месцы.

Дыплом прысуджаецца на пяць гадоў зь неабходнасьцю наступнага пацьверджаньня. На адрас Сакратарыяту трэба штогод дасылаць падрабязную справаздачу з выкладам стану флоры і фаўны, а таксама любых зьменаў, як экалагічных, так і ў сферы адміністрацыйнага кіраваньня й падначаленьня.

На сёньняшні дзень было пададзена й разгледжана блізу 70 заявак; 15-ці краінам было выдадзена



44 дыпломы, у тым ліку Расійскай Федэрацыі, Польшчы і Украіне.

Еўрапейскі Дыплом можа быць адклікany, калі стан аб'екта пагаршаецца, і гэты механізм "дамоклава мяча" ёсьць найбольш арыгінальнаю ды эфектыўнаю асаблівасьцю прапанаванай сістэмы. Дагэтуль адной толькі верагоднасьці страты Дыплома было дастаткова, каб забясьпечыць захаванасьць усіх, апроч аднаго, аб'ектаў зь ліку ўзнагароджаных і ўдала адхіліць пагрозу небясьпекі, часам даволі сур'ёзную. Да прыкладу, не былі прыняты праекты па

* стварэньні вялікага вадасховішча на тэрыторыі Нацыянальнага парка "Пік Дыстрыкт" /Вялікабрытанія/;

* пашырэньню аэрапорта паблізу запаведніка "Валматынгер Рыд" /Германія/;

* прамысловаму свідраваньню для нафтаздабычы на ўзбярэжжы Пурбек з статусам "Спадчына" /Вялікабрытанія/.

Аднак, маем выпадак, калі былі вымушаныя пазбавіць Дыплома адзін з нацыянальных паркаў. Гэта здарылася, калі ягоная адміністрацыя распачала навабудоўлю на лыжным курорце ў самым цэнтры парка, нягледзячы на забароны і рэкамендацыі пад час папярэдніх кантрольных праверак.

Ня буду даводзіць падрабязна, чаму нашы эксперты прызналі Бярэзінскі біясферны запаведнік надзвычай цікавым аб'ектам. Але мушу адзначыць ягоную выключную біялагічную разнастайнасьць, – у прыватнасьці, буйных млекакормячых, менавіта як зубр */Bison bonasus/*, лось */Alces alces/*, буры мядзьведзь */Ursus arctos/*, воўк */Canus Lupus/*, бабёр */Castor fiber/*, выдра */Lutra lutra/*, таксама – 240 відаў птушак, сярод іх вельмі рэдкіх: чорнага бусла */Ciconia nigra/* і глушца */Tetrao urogalus/*. Апрача гэтага, выклікае цікавасьць багатая расьліннасьць, асабліва першародныя нерушныя лясы, дзе знайшлі свой прытулак за тысячу відаў...

Умовы і рэкамендацыі /Рады Еўропы – рэд./ ня варта браць за паказьнік таго, што Рада Еўропы выступае супраць эканамічнага разьвіцьця. Мэта палягае на тым, каб спрыяць устойліваму разьвіцьцю запаведніка з аднадчасным захаваньнем біялагічнай разнастайнасьці. Са свайго боку мы будзем імкнуцца і надалей усяляк падтрымліваць вашыя намаганьні. ■



*Бабёр — Castor fiber — наш даўні знаёмец, жыхар "ціхай вады", заўзяты дрывасек і майстар заставаў — ня ведае слоў біясфера, маніторынг, экасістэма. Жыве сабе ціха, размнажаецца. Аднак менавіта ён сёньня варты п'едэсталу ў знак свайго гістарычнага месца на родных сялібах. Бо зь яго пачалася біяграфія запаведнага асяродка, ён даў пачатак гэтай унікальнай лабараторыі ў прыродзе. Тым часам абарыгенная папуляцыя рачнога бабра і захавалася, і прымножылася.*



## прысвоены

### ВЕХІ

••• Заснаваны ў 1925 годзе. За непрацяглы перыяд ня ўнікнуў драматычных паваротак лёсу. Яго то павялічвалі, то памяншалі. То адбіралі запаведнасьць, то зноў вярталі. То па-варварску секлі, то спынялі гвалт.

••• З 1979 года ўключаны ў Сусьветную сетку біясферных запаведнікаў, створаных у рамках сталай праграмы ААН "Чалавек і біясфера.

### АБСЯГ

Агульная плошча налічвае 1200 кв. кіламетраў; на 810-ці зь іх гаспадарчая дзейнасьць чалавека забароненая.

Запаведны абшар мае шырокі дабор ландшафтаў, – лес і балоты, лугі й вадаёмы. Лес займае 80 адсоткаў усяе плошчы, ягоныя тыпы й фармацыі тыповыя для Беларусі і часта ўнікальныя для Еўропы. Абшары сфагнавых балотаў (ад грэцкага sphagnos — род моху) сьведчаць пра першароднасьць тутэйшых мясьцінаў; ёсьць куткі, дзе з-за цяжкадаступнасьці рэдка бываюць нават дасьледнікі.

### ФЛОРА /ВІДЫ/

796 ____ вышэйшыя сасудз. расьліны

216 ____________________ імхі

196 ________________ лішайнікі

463___________ вышэйшыя грыбы

### ФАЎНА /ВІДЫ/

52______________ млекакормячыя

231___________________ птушкі

15 ____________ амфібіі і рэптыліі

34 _____________________ рыбы

Больш за 3000_____ беспазваночныя

### ДАСЬЛЕДВАНЬНІ

Сетка навуковых стацыянараў, пробных плошчаў і пунктаў кантролю /маніторынгу/ дае магчымасьць аператыўна пазначаць стан прыродных комплексаў і асобных папуляцыяў, прадбачыць негатыўныя зьмены. Найбольш значнымі дасьледваньнямі апошняга часу ёсьць працы па вывучэньню лясных экасістэмаў і балот.

Вялікая ўвага надаецца хімічнаму маніторынгу; найперш вучоных цікавіць уплыў элементаў, якія трапілі на запаведную тэрыторыю з атмасфернага паветра і ў якасьці ападкаў, – цяжкіх металаў, злучэньняў серы і азоту, пестыцыдаў і радыенуклідаў.

Вынікі хімічнага й экалагічнага маніторынгу ёсьць грунтоўнай падставай для фарміраваньня экапалітыкі беларускай дзяржавы.

### ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ

Захаваліся курганы старажытных славянаў. Праз тэрыторыю запаведніка пралягаў шлях вікінгаў у Візантыю. У 1797 - 1804 гг. там, дзе судны перацягваліся волакам па сушы з вадаёма ў вадаём, былі пабудаваныя каналы з сістэмай заставаў і ўзводных мастоў. Бярэзінская водная сістэма працавала амаль 250 гадоў і захавалася да нашых дзён.

*Гэта выключна важны вынік прыродаахоўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь, плён паступовага разьвіцьця запаведнае справы, вянец шматгадовай практычнай работы калектыву запаведніка.*

**Міхаіл Крывянчук,**
дырэктар Бярэзінскага біясфернага запаведніка

*Са свайго боку мы будзем імкнуцца і надалей усяляк падтрымліваць вашыя намаганьні.*

**Фердынанда Альбанезе**

## Паводле рашэньня Рады Еўропы, Дыплом прысуджаецца з увагай на захаваньне трох умоваў і выкананьне чатырох рэкамендацыяў

**Умовы**

* прыватызацыйныя захады не павінны адбівацца адмоўна на ахоўным статусе запаведніка;

* магчымыя работы па паляпшэньні і ўдасканаленьні ў біясфернай зоне не павінны рабіць шкоднага ўплыву на цэнтральную /абсалютна запаведную/ зону;

* паляваньне на тэрыторыі запаведніка забаронена /гэта аднолькава датычыць усіх відаў, не выключаючы ваўка/.

**Рэкамендацыі**

* забясьпечыць дастатковасьць рэсурсаў для належнага функцыянаваньня запаведніка і далейшай навуковай працы;

* намаганьні ў сферы асьветы ды інфармаваньня варта аб'яднаць і памножыць праз выкарыстаньне перавагаў, якія можа даць запаведнік, а таксама вынікаў навуковых дасьледаваньняў і назіраньняў;

* трэба дамагчыся такога кантролю за разьвіцьцём турызму, каб парушэньні спакою фаўны, як і празьмерныя нагрузкі на кіраўніцтва і персанал былі выключныя; пры гэтым даходы павінны йсьці на паляпшэньне сістэмы кіраваньня і асначанасьці запаведніка.



- Дуброва ў пойме р.Бярэзіны
- Рэчка Гурба
- Сергучоўскі канал
- Асакова-сфагнавае балота. Грэбля
- Верасовы, зялёнамохавы бор


### SUMMARY

*A European Certificate has been conferred to the Berezinski National biosphere park. The territory of the reserve is 81,000 hectares, with forests occupying 80 per cent of the area. The huge massifs of the sphagnum swamps underline the primogeniture of the forest reserve. The role of the National park in the settling of beavers is especially important, p. 8, 9.*






# ЗЯЛЁНЫ ФРОНТ

THE GREEN FRONT

## Беларусь — дом з шклянымі сьценамі?

### Зварот грамадзкіх арганізацыяў да Прэзідэнта краіны

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

У кожным чалавеку жыве памяць пра дзяцінства. У кожнага быў свой лес, свая рэчка, саваё чыстае паветра, свая запаветная сьцежка, саваё трапяткое захапленьне ад сустрэчы з жывым. Ці будуць у нашых дзяцей такія магчымасьці ды ўспаміны — залежыць ад нас, ад нашага стаўленьня да зямлі і прыроды.

Мудрая ангельская прымаўка вучыць: "У доме з шклянымі сьценамі ня кідаюцца каменьнямі". Уся наша краіна зрабілася гэтакім домам. І параўнаньне гэтае вельмі да мейсца, калі гаворка ідзе пра жыцьцё. Пра чалавека. Прыроду. Асабліва пра тое, што не належыць нікому асобна й знаходзіцца пад аховаю традыцыяў, законаў, проста разумнага сэнсу.

З глыбокае даўніны паходзіць паняцьце запаведных тэрыторыяў. Гэта як сьвятыя мейсцы. Так, яны заслонены законам, маральлю, традыцыямі. На шчасьце, гэта сфера, дзе няма супярэчаньня паміж нашым недасканалым заканадаўствам і міжнародным правам. Закон не дапушчае тут двухсэнсоўных вытлумачэньняў. Не патрабуе і залучэньня спецыялістаў.

Каштоўнасьць і важнасьць нацыянальных запаведных тэрыторыяў не выклікае сумневу.

І таму грамадзтва надзвычай занепакоенае бяздушным, зьдзірскім стаўленьнем да прыроды наогул і асабліва недапушчальнымі фактамі парушэньня закона ў запаведных кутках.

Знаходзяцца аматары "дапамагчы" запаведнікам коштам выкарыстаньня ахоўваемых там прыродных рэсурсаў. То спускаюцца "зьверху" планы нарыхтоўкі ягад, грыбоў, гэтак званай "руднічнай стойкі"*, то ўзьнікаюць планы пракласьці дарогу праз унікальны, ацалелы лес. Апошнім часам гэтыя факты рушаць на нас чарадою.

***Як бы не было цяжка дзяржаве спраўляцца з сёньняшнімі праблемамі, мы павінны ўразумець наступнае:***

Альбо рэспубліка здольная захаваць запаведныя куточкі прыроды ў недатыкальнасьці, альбо гэта нам не па сіле і на запаведных тэрыторыях трэба ставіць крыж, ператварыўшы іх у гаспадарчыя аб'екты. Але мы ўжо шматкроць пераконваліся, што разбурыць лёгка, працэс жа ўзнаўленьня становіцца доўгім, дарагім ды пакутлівым, калі не наогул немагчымым.

Неабходна поўнае дзяржаўнае забесьпячэньне запаведных тэрыторыяў з адзінай магчымай дзейнасьцю — аховаю і вывучэньнем. Гэтага патрабуе Закон. Не дарма ж залагоджана й прынята цяперашняе прыродаахоўнае заканадаўства. Дастаткова яго захоўваць, і грамадзтва ня будзе дранцьвець ад інфармацыі пра чарговую страту нацыянальных каштоўнасьцяў.

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

Мы ня можам дапусьціць меркаваньня, што спамянутая "ініцыятыва" рухавых гаспадарнікаў зьявілася на сьвет з Вашага ведама, ці, пагатоў, была залагоджана Вамі. Мы зьвяртаемся да Вас як чалавека, які заўсёды адчуваў повязь з зямлёй, да чалавека, які разумее, што нельга толькі браць ад прыроды.

Мы зьвяртаемся да Вас як Прэзідэнта, які спаўна разумее сваю адказнасьць не адно перад рэспублікай і выбаршчыкамі. Але й перад людзьмі, якім жыць на гэтай зямлі. З уласным правам на жыцьцё, здаровае дзяцінства, чыстае паветра, запаветную сьцяжынку, трапяткія пачуцьці ад сустрэчы з жывым.

Грамадзкія арганізацыі Беларусі зьвяртаюцца да Вас з просьбай разабрацца наконт абуральных фактаў парушэньня прыродаахоўнага заканадаўства ў запаведніках Беларусі.

У лютым 1995 года Кіраўніком справаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сп. Ціцянковым і ягоным намесьнікам сп. Новакам быў зацьверджаны план нарыхтоўкі "руднічнай стойкі" ў запаведніках "Белавежская пушча", Бярэзінскім і Прыпяцкім. Гэта супярэчыць Закону Рэспублікі Беларусь "Аб асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях і аб'ектах", артыкул 17 якога даводзіць: **"На тэрыторыі запаведнікаў забараняюцца ўсе віды гаспадарчай дзейнасьці, ня зьвязаныя зь ягоным прызначэньнем, і ўсялякая дзейнасьць, якая прама ці ўскосна парушае прыродныя комплексы і пагражае стану прыродных аб'ектаў".**

Мы патрабуем цьвёрдага захаваньня заканадаўства супрацоўнікамі Кіраўніцтва справаў Прэзідэнта і просім Вашага спрыяньня ў накірунку рэальных дзеяньняў па ахове навакольнага асяроддзя.

**Красавік 1995**

*Жэрдзе ў якасьці падпорак на рудніках (тэхнічны тэрмін).

***Гэта ўжо гісторыя — мінуў год. Але ня ўсе паперы зарастаюць мохам на трэці дзень пасьля іх напісаньня. Некаторыя, прынамсі, застаюцца ў памяці калі не шырокай грамадзкасьці і, часам, саміх аўтараў, дык журналістаў, шматлікіх назіральнікаў.***



Фота: Аляксей Мацюш

**NOTA BENE**

**Будучыня і ўлада ў ёй будзе, па ўсім відаць, належаць людзям навукі.**

**Уладзімер Вярнадзкі. Дзёньнік, 1931.**

*Зварот 18 грамадзкіх арганізацыяў, сярод якіх такія як Асацыяцыя прафесійных эколагаў, фонд "Дзеці Чарнобыля", Саюз моладзі ды іншыя, падаецца цікавым не адно як жанр "зялёнага" летапісу Беларусі, але таксама як факт разьвіцьця дэмакратыі ў нашай краіне прыканцы XX стагоддзя. На жаль, спроба голасу засталася няўважанай з боку высокага адрасата. Прадстаўнікам маладзёжнай суполкі "Некст-Стоп — Нью-Лайф" (гэта еўныя хлопцы й дзяўчаты першымі зазванілі ў званы) давялося шукаць хіба магчымасьці сустрэцца ды перамовіцца з адказнымі асобамі Адміністрацыі. Сустрэча, паводле словаў аднаго з "хадакоў", ня высьветліла пазіцыі Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі адносна пытаньняў, якія паўсталі з выпадку спушчанага цыркуляра аб нарыхтоўках у беларускіх нерушах.*

*Фактычна, мы ня тая краіна, дзе грамадзкае хваляваньне ўспрымаецца адпаведна, з належнаю ўвагаю — як падстава сапраўды разабрацца, праявіць гатоўнасьць ісьці на шчыльны дыялог. Калі ж пытаньні павісаюць, а "дыялог" заканчваецца аднабаковай (з боку грамадзкасьці) інфармацыяй "да ведама" начальнікаў, тады, мякка кажучы, застаецца ўражаньне, нібыта ўлада здольная на ўсё, што ёй заўгодна, і грамадзтва не застрахаванае ад чарговых "сьмелых" рашэньняў адміністрацыйных службаў.*

*Па нашых зьвестках, незаконная гаспадарчая дзейнасьць у запаведніках прыпыненая. Грамадзкія арганізацыі, паводле іхных заяваў, атрымалі з рук незалежных экспертаў заключэньні аб уроне, які, на іх думку, быў зроблены пад час дзеяньня "распарадчага" цыркуляра. Шчыра кажучы, гэтай інфармацыі вельмі бракуе. Калі яна зьявіцца, рэдакцыя "БП" зробіць усё магчымае, каб надаць ёй галоснасьць і, разам з тым, выслухаць другі бок. Наша выданьне адкрытае для дыялогаў.*

SUMMARY

***The representatives of environmental NGOs clashed with the facts of the economic procurements in the reserves of Belarus. Having appealed to President Lukashenko with a request to give an assessment of the illegal actions of the state services, the signatories reckoned upon an answer of principle. No response has been forthcoming for a year... Publishing the Appeal, the editorial staff underlines its topicality, estimating it as one of the factors of the democratic development in the country.***

# ДЗЕНЬ ЗЯМЛІ THE DAY OF THE EARTH

## Сад Габрыэля ў ландшафце Еўропы і Беларусі



*Алена Давідовіч*

У сваё 74 гады Ханс-Юахім Габрыэль езьдзіць па сьвеце. Езьдзіць адзін, на сваім мікрааўтобусе "Фольксваген", на борце якога намаляванае дрэва. Верхавіна кроны акурат нагадвае мапу Еўропы, дзе Ханс-Юахім Габрыэль рабіў адмысловыя прыпынкі. А заадно — пакінуў пра сябе добрую памяць.

Справа ў тым, што спадар Габрыэль, спецыяліст па паркавых краявідах, садзіць на зямлі дрэвы. Сам, сваімі рукамі, па сваёй тэхналогіі. Дамаўляецца загадзя, вывучае прыродныя асаблівасьці краіны, а затым на месцы (ці, лепш сказаць, на мясцовасьці) мяркуе ды вызначае, якія пароды будзе садзіць, дзе і колькі. Але ня менш як гектар! Уяўляеце сабе: дзялянка лесу — і ўсё ўручную?!

**У кожнай краіне ён пакідае на памяць ня менш як гектар садзіва. Рахунак тым часам перасягнуў 15 мільёнаў дрэў.**

15 мільёнаў дрэў, пасаджаных рукамі нямецкага адмыслоўца-ландшафтніка, сёньня ўпрыгожваюць, так бы мовіць, пейзаж Еўропы. А мінулагодняй вясною садзіва пабольшала на 5 тысячаў маладзенькіх елачак і 2 тысячы дубкоў: іх на плошчы 1,4 гектары спадар Габрыэль пасадзіў у Рогаўскім лясьніцтве Мінскага раёна.

"Узьнікла гэтая ідэя больш як дзесяць гадоў таму, — гаворыць Ханс-Юахім Габрыэль. — За гэты час пасадзіў дрэвы ў Англіі, Люксэмбургу, Ірляндыі, Бэльгіі, Швэйцарыі, Славеніі, Баўгарыі, Грэцыі, Швэцыі, Фінляндыі, Ісляндыі, Летуве, Калінінградзе. Пасьля Беларусі рушу ў падмаскоўны Загорск, там ёсьць дамоўленасьць на пасадку бярозак. У сябе ў Нямеччыне шмат дрэўцаў пасадзіў на месцы пахаваньняў ахвяраў фашызму."

"Чаму я гэта раблю? — працягвае распавядаць спадар Габрыэль. — Таму, што проста раблю, як гавораць у нас у Нямеччыне. Ведаеце, шмат людзей любяць паразважаць, што нешта, маўляў, трэба мяняць, рабіць дзеля міру, агульнага разуменьня. Але за словамі справа часта ня йдзе. І я вырашыў пашукаць гэтыя шляхі да разуменьня сам, зыходзячы са свайго ўласнага досьведу, уменьня, у рэшце сваіх ведаў. Так пачаў езьдзіць па сьвеце, знаёміцца зь людзьмі, ладзіць стасункі. Мне ўсюды шанцуе. Водгук на мае прапановы заўсёды жывы й натуральны."

"Можаце лічыць мяне эгаістам, — зазначае Ханс-Юахім, — але мне будзе спакойна паміраць, ведаючы, што пасьля мяне застануцца на зямлі дрэвы, пасаджаныя мною. Гэта будзе памяць пра мяне..."

І яшчэ адно меркаваньне выказаў спадар Габрыэль. Дрэва, лічыць ён, — лепшы сябар. У адрозьненьне ад чалавека, яно ніколі ня здрадзіць, не ашукае. Толькі наадварот — надасьць сілы, зачаруе веліччу, заслоніць ад злыбяды.

Такая — у трох словах — філасофія добрых спраў Ханса-Юахіма Габрыэля з невялікага нямецкага горада Остбэфорн, што ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Нізкі паклон яму за вялікае сэрца й самаахвярную любоў да ўлоньня.



**ПАСАДЗІ ДРЭВА ЖЫЦЬЦЯ!**

**...Хто вырасьціў два каласы, дзе раней рос адзін; дзьве былінкі, дзе раней красавала адна, — той заслужыў удзячнасьць чалавецтва...**

*Дж. Свіфт*



■ *Стракатая мухалоўка*

*Фота: Аляксандр Кагуан, Аляксандр Гутаўскі*

## КАНТРАПУНКТ
CONTRAPUNCT



***Два матывы — дзьве песьні?..***

***Хіба што агонь на імгненьне ўваскрэсіць мелодыі трапяткой, гаманлівай, жывой прыроды.***


SUMMARY

*The heading reminds the readers that one ought to prepare himself for the Earth Day - an action of concrete operations in defense of nature, which is celebrated in April, for the whole year.*


### Здаровае дрэва дае чалавеку радасьць і энэргію, хворае іх адбірае.

- *Садзіць трэба ўдалае, з добрымі задаткамі дрэўца. Калі зусім побач расьце некалькі маладых, паспрабуйце іх рассадзіць. Пры неабходнасьці зьлёгку фарміруйце гарманічную крону.*
- *Правільна садзіць дрэвы — не гусьцей як за 8-10 метраў адно ад другога і на свабодных для пасадкі мейсцах. Неабходна цалкам выключыць навасады пад лініямі камунікацыяў, тут лепей садзіць кусты.*
- *Абсяканьне таполяў пад лініямі камунікацыяў, як сьцьвярджаюць адмыслоўцы, зьяўляецца паўсюдным і вельмі тыповым варварствам. Тут да месца выгукнуць не адно "Ратуйце дрэвы", але й "Ратуйце душы!" Абсечаныя, пакалечаныя дрэвы траўміруюць людзей на падсьвядомым узроўні, разбуральна дзейнічаюць на псіхіку.*
- *Яшчэ пра таполю. Выдатна прыстасаваная да забруджанага навакольля, больш за іншыя дрэвы паглынае з атмасферы вуглякіслы газ і вылучае кісларод. Хутка расьце. Не патрабуе шмат увагі. Галоўнае: саджаць на адлегласьці 12-14 метраў — даць магчымасьць разьвінуцца кроне. Такое дрэва будзе здаровым і ўстойлівым.*
- *Тапаліны пух ачышчае паветра ад канцэрагенаў, якія правакуюць рак у чалавека, і на думку дактароў-алерголагаў не абавязкова ёсьць прычынай алергіі ў людзей.*
- *Зьвярніце ўвагу на крону, выгляд камля, кару тых дрэваў, якія вас акружаюць, і паспрабуйце параўнаць, што чалавек мог і не зрабіў, і што яшчэ можа зрабіць, каб паспрыяць дрэву.*

# ТВОЙ ВОСТРАЎ YOUR ISLAND

> *Уладаньні лясного бога нагадваюць рэанімацыйныя кабінеты, куды раней ці пазьней трапляе кожны з нас.*

## Калі чалавек заблудзіўся ў жыцьці, ён заблукае і ў лесе

**Уладзімер Галубкоў**

Прырода мае вялікі запас трываласьці. Таму шчодра траціцца й на чалавека, дапамагае яму ачысьціцца, скінуць стому, набрацца сілы і мудрасьці. Здараецца,чалавек заблукаў. Ня ведае, у які бок падацца; вакол густы, як заварожаны, лес. У народзе кажуць, што гэта "нячысьцік падкаснуўся", альбо - лясны бог паспавядаць вырашыў. Чым не падстава задумацца: а ці ня ёсьць гэта формаю ачышчэньня чалавека ад рознай цьвілі на душы, фізічнай немачы, эмацыйнай нераўнавагі, урэшце, нядобрых, зламысных думак? Бо існуе меркаваньне: чалавек харошы ў лесе, маўляў, не заблудзіць, яму лясны бог і дарогу пакажа, і даверыць грыбныя мясьціны, і адорыць добрым настроем, і шлях да разумных рашэньняў падкажа... А чалавеку нядобраму дасьць магчымасьць адумацца, паварушыць глуздамі; апынуўшыся перад выбарам сьцежкі, той мусіць азірнуцца навокал — на свой досьвед, на свой пройдзены шлях. Бадай, калі чалавек не знаходзіць сябе ў жыцьці, ён заблукае і ў лесе, будзе кідацца думкамі ў жаху і страху, пакуль не разблытае клубок жыцьцёвых кірункаў, не паглядзіць на іх з вышыні птушынага лёту. Заблукаўшаму ў лесе важна ня толькі ўхапіцца за сваю сьцяжыну, зразумець, куды яна бяжыць, але спасьцігнуць мудрасьць: у жыцьці ён таксама заблукаў, трапіў у гэткі ж тупік, дзе няма выйсьця



❖❖❖

*Уладзімер Галубкоў. 44 гады. Біёлаг, кандыдат навук.*

*Пасьля войска закончыў Белдзяржуніверсітэт, затым асьпірантуру ў Ленінградзе. Абараніў дысертацыю — "Лішайнікі ахоўных прыродных тэрыторыяў Беларусі", выкладае на кафедры батанікі і асноў сельскай гаспадаркі факультэта прыродазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта.*

назад і ўсе сьцяжынкі — як зачараваныя. Псіхалагічна важна зрабіць правільны крок, выбавіць сябе з пасткі, урэшце, калі выйсьце знойдзена, мінае і пачуцьцё страху, няўпэўненасьці, а на іх месца заступае аптымізм, зьяўляюцца добрыя думкі. Варта засяродзіцца над вынікам аздараўленьня; ён быў бы немагчымы без натуральных, прыродных рэсурсаў.

Энэргіі жыцьця старажытнага, з імхом і лішайнікамі, дрымучага лесу сілкуюць, нітуючы наскрозь сваімі праявамі, усіх яго жыхароў, а першымі паглынальнікамі сонечнай энергіі зьяўляюцца кроны дрэваў.

Калі паглядзець на дрэва як на расьліну, няцяжка "заўважыць" чатыры ягоныя складнікі: карэньні, камель, крону і лісьце. Карэньні — якар дрэва, зьвяно паміж Зямлёй, Вадой і самім Дрэвам. Карэньні сілкуе Зямля, Зямля трымае Ваду, Вада поіць Дрэва. Даўно заўважана падабенства дрэва й чалавека. Карэньні — ногі. Камель — тулава. Крона — галава й рукі. Прыслухайцеся да музыкі кроны. Кожны лісьцік мае з сябе як бы часьцінку аркестра; усходзіцца вецер — ажыве, запяе крона. І менавіта яна прымае ў свае далоні касьмічную энэргію сонца, насычае дрэва жыцьцём і моцай. Нездарма зялёны колер лісьцяў скрозь быў сымблем надзеі, прагі жыцьця,зямной энэргіі. Часам задаеш пытаньне: "Дзе сканчаецца містыка й пачынаюцца рэальныя адчуваньні? Ці ня ёсьць нашы сёньняшнія сымбалі ўвасабленьнем матэрыяльных адчуваньняў, якімі кіраваўся прашчур, пакланяючыся сілам Прыроды?"

Спачатку давайце разважым. Ці не самы вялікі грэх чалавека — ў яго аддаленьні ад сваёй унутранай і вонкавай прыроды?... Сёньняшнія хваробы трэба ўспрымаць як сігнал трывогі за лёс чалавека й ягонай натуры, а лячэньне — як урок, дадзены для таго, каб асэнсаваць фізічны стан, нашае стаўленьне да сваёй прыроднай сутнасьці. Даволі вядомая сентэнцыя — лячыць трэба ня вынік хваробы, а прычыну адносінаў да ўласнага здароўя — тут акурат да месца. Прырода заўсёды сьцерагла, ахоўна вартавала й вартуе здароўе чалавека; таму, бадай, натуральна, калі заўчасна хварэюць, а нярэдка паміраюць найперш людзі, якія да ўласнага здароўя і прыроды ставіліся абыякава й безуважна. /Успомнім: дзікія жывёлы ня маюць такога спектра хваробаў як чалавек; з маленства іх "вакцынуе" прырода. Выпадкаў, калі сабакі ці кошкі сыходзяць у лес па лекі, не дачакаўшыся іх ад чалавека, вялікае мноства/.

Ідучы ў Прыроду папраўціца ад немачы ці ўпадку сілаў, мы, вядома, падключаем і сваю інтуіцыю. Унутраны голас, шостае ці нават сёмае пачуцьцё. Яны ў саюзе з прыроднымі рэсурсамі дапамагаюць зрабіць правільны выбар, знайсьці свой рэцэпт энэргасілкаваньня. Прычым, не адно тады, калі чалавек хворы, але й тады, калі зусім здаровы. Лясны бог, які сустрэне вас, з разуменьнем паставіцца да вашых клопатаў і ўсяляк паспрыяе вам. Ягоныя ўладаньні нагадваюць своеасаблівыя "рэанімацыйныя кабінеты", куды раней ці пазьней трапляе кожны з нас. Няважна, у якім узросьце, галоўнае, каб думка-здагадка пра ачышчальныя магчымасьці лесу, самаўладнасьць мудрага Лесуна жыла ў сьвядомасьці й ахоўвала чалавека ад памылак розуму. Магутныя дрэвы, якія на працягу стагоддзяў насычаліся жыцьцёвай энэргіяй, заўсёды гатовыя падзяліцца сваімі запасамі. Гэта перш-наперш шыракалісьцёвыя дрэвы: дуб, ліпа, клён, ясень, вяз, якія сілкуюць здаровы чалавечы арганізм станоўчай жыцьцёвай энэргіяй. Зусім іншыя стасункі з чалавекам у такіх прыродных дактароў як асіна, таполя, вольха, вярба, пра што яскрава сьведчыць прыклад з асінавым паленам, якое клалі пад хворую нагу. Гэтыя дрэвы таксама памагаюць, але хворым і нямоглым, адбіраючы ў іх нядобрую, хваробатворную энэргію.

На жаль, сёньня Прырода як галоўная жыцьцядайная крыніца сталася аб'ектам містыкі й міфалогіі. Аднак не палохайцеся, калі вы трапіце на Востраў Здароўя, — вам пашанцавала. Застаецца толькі прыпасьці да велічнай крыніцы, прызнацца ў любві да яе, назаўжды захаваць пашану і ўдзячнасьць дару Прыроды.



*Ніна Сакалова-Кубай. Выцінанка "Белавежская пушча"*


SUMMARY

***Biologist Vladimir Golubkov tries to convince readers that the wood-goblin's possessions are the original "reanimation cabinets", and that visiting them from time to time is health-giving to everyone.***


## Уцеха-тэрапія: ШТОДНЯ БАСАНОЖ!

*Лета – час разбуваньня. Хочацца як мага ступіць басанож, выйсьці наўпрост. Прахалода зямных сокаў, датклівасьць пясчанай сьцежкі маюць за сабой не адно эмацыйны бок. Вострыя адчуваньні пры гэтым выдатна амалоджваюць арганізм, надаюць бадзёрасьці мышцам.*

*Кажуць, старажытны чалавек, які незнарок выцяў нагу аб дарожны камень, хутка заўважыў, што з болем канечнасьці перастала балець галава. Мабыць, наш продак быў на той стадыі разьвіцьця, калі ягоны розум дазволіў адрозьніць прычыну й наступства. Зноў прыйшоў ён да каменя, ударыў аб яго ступнёю – і займеў той жа вынік. Так паверыў у гаючую сілу цудадзейных судакрананьняў. А замест вялікага каменя паклаў ля парога маленькі.*

*Сёньня ступенятэрапія – адзін з найдаступных сродкаў аздараўленьня. Каб не прастуджвацца ў асеньнюю слоту, варта як мага часцей хадзіць басанож улетку – каля дому, на прыродзе ці лецішчы, раніцай па расе.*

*І яшчэ. Акупунктура ступні – метад больш як вядомы. Але чым шукаць нейкую канкрэтную кропку на падэшве тады, калі ўжо заныла ці запякло, – лепш хадзіць басанож, націскаючы на ўсе кропкі адразу! У карыснасьці такой працэдуры вы пераканаецеся вельмі хутка. Зрабіце яе правілам на штодзень!*

***Уладзя Ляская***

# КВЕТКІ РАЮ

FLOWERS PARADISE

Першая парфума вясны — чаромха. Подых салодка-гаркавай сьвежасьці хвалюе старога й малога; кожны сьпяшаецца адламаць хоць маленькую духмяную гронку, зблізку пачуць пах пяціканцовых кветачак.

Пасьля чаромхавых завеяў ды хмельнага водару на расліну часьцей за ўсё да наступнай вясны забываюцца. І толькі той, хто ведае пра лекавую здатнасьць чаромхавых ягад, чакае пары, калі яны пасьпеюць. Зазвычай гэта сярэдзіна ліпеня.

Удзячны за красу ды пяшчоту гэтага мілага сэрцу дрэва, чалавек абыходзіцца зь ім асьцярожна й ашчадна. Некаторыя гаспадары, насуперак даўняму меркаваньню, быццам чаромха прываблівае ў сад-агарод розных шкоднікаў /апасеньні наўрад ці актуальныя сёньня/, — перасаджваюць дрэвы з гаёў ды дзікіх зарасьнікаў на свае сядзібы: няхай расьце й пахне! Балазе, прымаецца чаромха досыць лёгка, а размнажаецца насеньнем, атожылкамі ад пнёў і карэньняў.

## Чаромха



Што да лекаў, якія расьліна дорыць чалавеку, за найбольш распаўсюджаную маем настойку на чаромхавых ягадах: ня горш за чарніцы ўмацоўвае страўнік /"вяжа"/. Хворыя на жывот настойваюць на ягадах лекавае віно.

Лістота чаромхі вылучае ў паветра асаблівыя рэчывы /фітанцыды/, якія прыгнятальна дзейнічаюць на мікробы ды іншыя хваробатворныя арганізмы. А кветкі, што так хораша пахнуць увесну, пры перагонцы даюць чаромхавую ваду, якою прыкладваюць вочы.

Часам ягады крыпаюць у пірагі. А хто каштаваў кісель з чаромхавай мукі /ягады сушаць і мелюць разам з костачкамі/, кажуць, вельмі смачна, яшчэ захочаш.

Дзе расьце чаромха, там,<br>ведай, блізка грунтовая вада,<br>жыцьцядайная вільгаць. Прыкмета<br>— цудоўная, дзякаваць богу.



SUMMARY

*Summer is the time for medicinal plants collection. This page familiarizes one with the three representatives of the flowers' drugstore: a meadow-sweet, a red clover and a bird cherry*



## Канюшына
### лугавая, чырвоная

Калі ў вас ёсьць невялічкая кветніца, паспрабуйце спачатку з трох-пяці-сямі галовак гэтай расьліны скласьці букецік. Атрымаецца маленькі цуд для вашага стала, за якім вы працуеце.

Прыглядзьцеся да кветачкі — цуд пабольшае. Круглая, крыху завостраная ўверсе галоўка прыбраная з мноства трубачак, быццам сваю дзею толькі-толькі завершыла чароўная фея з цырульні Прыроды. На донцы трубачкі шмат нектару; да канюшыны прылятаюць і адлятаюць, кружацца ў руплівым гудзеньні чмялі і пчолы. Цьвіце-красуе канюшына ўсё лета да самае восені.

Кожны селянін добра ведае ёй цану, шануе расьліну як каштоўную кармавую траву.

Але ня ўсім вядома, што чырвоная канюшына яшчэ й лекавая зёлка,а таксама прыдатная ў салаты, для прыгатаваньня напояў і нават чаю /гарбаты/. Раней, выпякаючы хлеб, пасушанае лісьце канюшыны клалі ў муку. Кіргізы, напрыклад, з маладога лісьця на баранім сале гатавалі смачную і пажыўную страву, якая вяртала сілу пад час фізічных нагрузак. Маладое лісьце ідзе таксама ў супы, пюрэ. Салаты гатуюць, дабаўляючы вараную бульбу, буракі, крутое яйка, хрэн ці воцат. На зіму лісьце й суквецьці прыпасаюць у сушаным, квашаным, марынаваным выглядзе.

Падаём некалькі рэцэптаў.

*Бацьвіньне:* 100г бульбы пакласьці ў кіпячую ваду альбо мясны булён і варыць да паловы гатоўнасьці. Дабавіць здробненых 100г лісьця канюшыны і 100г лісьця шчаўя, 40г рэпчатай цыбулі, падсмажанай у 20г тлушчу, сьпецыі. Перш чым ставіць на стол, заправіць 20г сьмятаны і 0,5 парэзанага варанага яйка.

*Напой:* 200 галовак сьвежай канюшыны пакласьці ў 1 літр кіпячай вады, варыць 20 хвілінаў, пасьля чаго даць добра ахаладзіцца. Адвар працадзіць, дабавіць у яго цукру /50г/, пакінуць на 2 гадзіны. Ставіць ахалоджаны.

*Гарбата:* 2 часткі галовак канюшыны, 1/4 травы сьвятаяньніку /зьверабою/, 1/4 лісьцяў чорнай парэчкі – высушыць у цяні пры пакаёвай тэмпературы, перамяшаць і скарыстаць як заварку.

За духмяны мядовы пах расьліну яшчэ называюць *мядуніца*. А яшчэ чамусьці — *парджыла, парыла, папоўнік.* Калі дадаць, што расьце яна каля рэчак, у гурце балотнага разназёлу, бліжэй да алешнікаў, альбо ў лесе, дзе назе мокра, дык асацыяцыі паўстаюць бясконцаю чарадою. І заўважыць яе ўжо зусім будзе проста — сама рослая, а дробныя кветачкі сабраныя ў густую мяцёлку пераважна жоўтабелага колеру. Ажна пеніцца квецень, прыгінаючы долу сьцяблінку.

Цьвіце вятроўнік у чэрвені-ліпені. Гэтым часам зьбіраюць лісьцейка й кветкі. Увосень — карэньні. Маладое лісьце, атожылкі й карэньне ідуць як прыправа ў супы, баршчы і салаты. З кветакмяцёлак гатуюць гарбату; натуральна, яна вельмі пахкая, прыемная на смак. Прымаюць напой (15г на 1 л вады) як мачагонны сродак, пры нефрытах, ад болю ў жываце, пры ламаце ў мускулах і касьцях, падагры і інш.

На заварку бяруць таксама зялёнае высушанае альбо ферментаванае лісьце. Для ферментацыі сьвежае зяленіва пераціраюць рукамі, напіхваюць ім бутэлькі і пару сутак вытрымліваюць пры тэмпературы 40° С.

Затым пацямнелае духмянае лісьце хутка высушваюць і складваюць у слоікі.

Калі яшчэ цьвіце шыпшына, паспрабуйце прыгатаваць гарбату ў наступным зборы: 200г кветак вятроўніку і 20 г пялёсткаў шыпшыны пасушыце ў хатніх умовах і порцыю заварыце. П'ючы гэты боскі водар, шапчыце ўдзячныя словы Зямлі, Сонцу і Ветру, нашай Прыродзе і нашай Бацькаўшчыне.

## Вятроўнік
### вязалісты



# НІША NICHE

# З жыцьця лугавога шуляка






❖❖❖

*Уладзімер Іваноўскі зь Віцебску. Займае пасаду ў абласным паляўнічым таварыстве. Арнітолаг, кандыдат навук, рупіцца як мага часьцей і ў папулярнай форме распавядаць пра сустрэчы з жывой прыродай Беларускага Паазер'я. Гэтым раз Уладзімер прэзентуе колькі рысачак з жыцьця лугавога шуляка (Circus pugargus) — вельмі зграбнай, лёгкага складу драпежнай птушкі, якую часьцей за ўсё можна ўбачыць над пожняю ці балацінкай.*



- *"...я цікаваў птушак праз моцную аптычную трубу" (зд. зьлева)*
- *"...гэта былі зусім маленькія белыя пуховыя камячкі" (зд. уніз)*
- *Партрэт для газетнае паласы*

***Уладзімер Іваноўскі***

Як зараз бачу туманны ранак, калі над невялікай балацінкай зглядзеў двух лёгкіх птахаў. Нібыта ў замілаваньні, яны кружлялі над шэраю красавіцкай зямлёю. Гэта былі самец і самка. Бінокаль выхопліваў знаёмыя сілуэты птушак на купінцы ці на аблюбаваным невысокім слупку.

Сустрэча паўтарылася на другі й трэці дзень. Сумневу не было — гэтая пара вырашыла асесьці тут, сярод лугу. З сярэдзіны траўня птушкі пачалі ладаваць гняздо. Балотца хутка зарасло аерам ды іншым вадалюбным разназёлам, хоць год быў вельмі сухі.

Першае яйцо ў гнязьдзе зьявілася 28 траўня. У наступныя дні, зь інтэрвалам 24 гадзіны — яшчэ тры. Самка адразу ж, як зьнесла першае яйцо, прыступіла да наседжваньня, а самец працягваў радавацца вясьне, волі, пры гэтым тры-чатыры разы на дзень не забываўся карміць самку, прыносіў ёй палёвак і падмяняў на час сілкаваньняў.

З 26 па 29 чэрвеня з усіх чатырох яец вылупіліся птушаняты. Гэта былі зусім маленькія белыя пуховыя камячкі з прыплюшчанымі вачыма. Яны жалосна папісквалі і ледзьве маглі прыўзьнімаць галоўкі на кволых тоненькіх шыйках. Самец цяпер вельмі стараўся, нястомна курсаваў паміж гняздом і бліжэйшым полем, зарослым пустазелам. Калі я падыходзіў да гнязда, ён настойліва атакаваў мяне, але зварочваў у метрах пяці ад галавы, не рызыкуючы ўдарыць кіпцюрамі.

Метраў за трыццаць ад гнязда стаяў мой схоў, адкуль я цікаваў птушак праз моцную аптычную трубу. Птушаняты падрасталі, ім ужо не ставала ежы, хоць на паляваньне пачала вылятаць і самка. У гнязьдзе зрэдзьчас узьнікалі сутычкі, малыя рабіліся агрэсіўныя. Больш за ўсіх даставалася самаму маленькаму, яго заўсёды адпіхвалі ад здабычы, на ягонай галоўцы не зажывала ранка ад вечных грымакоў. А тут якраз зададжыла. Самец вельмі рэдка прыносіў паесьці, сядзеў, натапырыўшыся, на сваім аблюбаваным слупку.

Аднойчы з засідкі я ўбачыў у гнязьдзе толькі трох птушанятаў. Захваляваўся, вырашыў падысьці бліжэй. Высьветлілася, што чацьвёртае птушаня было зьедзена ягонымі сабрацьцямі, засталася толькі адна скурчаная лапка. Так я ўпершыню сутыкнуўся з зьяваю канібалізму ў выпадку лугавых шулякоў. У неспрыяльныя сезоны слабыя птушаняты выконваюць ролю "жывых кансерваў" — іх кормяць, пакуль хапае здабычы.



30 ліпеня, на трыццаць пятым дні з моманту вылупленьня, свой першы непрацяглы палёт зрабіла старэйшае птушаня. А 5 жніўня ўпэўнена паспрабавала крылы і самае малодшае ў птушынай сям'і. Бацькі цярпліва навучалі ўсіх самастойнасьці ды паляўнічаму майстэрству. Хутка ўжо кожная дзесятая спроба авалодаць здабычаю заканчвалася пасьпяхова. Асабліва эфектыўным было гэтак званае скрадваньне: драпежнік нізка ляціць над зямлёю, высочвае ахвяру і ў кароткім кідку наганяе яе. Лётальны апарат шулякоў ідэальна прыстасаваны да такога замаруджанага, гарызантальна-махавага сьлізганьня ў паветры.

Увесь жнівень я зь цікавасьцю й замілаваньнем сачыў за інтымным жыцьцём птушынай сям'і. Першыя дні верасьня сталіся для мяне й нас разьвітальнымі: кружляючы высока ў небе і пасылаючы стуль ледзьве чутныя гукі, мае аблюбенцы кіравалі на поўдзень. Заставалася чакаць наступнае вясны ды іх вяртаньня ў абжытыя мясьціны Беларускага Паазер'я. ■



*Фота: Ігар Бышнёў, Уладзімер Іваноўскі*



SUMMARY


*From the ornithological notes by Vladimir Ivanovski readers will get to know quite a lot of curious things about a meadow hen-harrier. The author observed a family of this bird of prey from the spring to the autumn and felt drawn to it.*

# МАРТЫРАЛОГ

MARTYROLOGY



## Ад якога скарбу мы адракаемся?

**Іван Івашка**

*Не шукай ты шчасця, долі*
*На чужым далёкім полі...*
*Не шукай сабе, мой братку,*
*Зь ветрам*
*Бацькаўшчыну-матку...*
*Яе знойдзеш вельмі блізка...*

Янка Купала

Нашым далёкім прашчурам было куды прасьцей, чым нам. Зямля ў іх трымалася на сьпінах трох кітоў, неба — на плячах волатаў -атлантаў.

Сёньня трох кітоў замала. Ня толькі, каб пастрымаць ад бездані ўсю зямлю, усю сушу, а для таго хоць бы, каб ня даць абрынуцца, сыські ў нябыт невялікаму кавалку, нават лапіку гэтае сушы. Дзіва што! Такі бясконца дарагі, такі выключна каштоўны цяжар — наша родная краіна-Бацькаўшчына, Радзіма. Каб забясьпечыць ёй вечнае месца пад сонцам ды раўнавагу ў сьвеце, мала мільёнаў нашых дужых сьпінаў-плячэй. Патрэбны грунт духоўны. Патрэбная вернасьць, супольная зладжанасьць сэрцаў, любоў.



**Беларусь, якая адыходзіць...**

**Развітваючыся, здымем шапку, схілім галаву ў пашане перад пакаленьнямі майстроў, што ладавалі сялібы-гнёзды, рупіліся пакінуць нам годную спадчыну**



Фота: Аляксандр Гутоўскі.

Таямніча-дзівосна прыходзіць у нашыя душы, у нашую чалавечую існасьць пачуцьцё любасьці да Бацькаўшчыны. Родная хата, двор, сядзіба — гэта тое, што мы называем бацькоўскім кутком, нашай маленькаю роднай старонкай. Адсюль, са сваіх Малых Багацькавак, Вялікіх Сёлаў, Новых Вёсак, Старых Сьвержаняў, Залужжаў, Зарэччаў, Засульляў, Залесьсяў, Заброддзяў, Завосьсяў мы ўзіраемся за далягляд, прастуем у вялікі сьвет.

Шаноўным узростам, сталым векам слаўныя нашы малыя радзімы. Уявім сабе на імгненьне, зь якой далечыні яны сьвецяць нам, за якім часам паўсталі. Як не ў часы біблейскія, як не да нашае эры, дык, прынамсі, у часы даўнія, незапомныя, непраглядныя — за валамі й курганамі стагоддзяў. Нейкі наш продак стаміўся ад бясконцых вандровак па белым сьвеце, вырашыў стацца аселым чалавекам, займець спакой ды ўтульнасьць. Тутэйшыя мясьціны ён ведаў няблага, безьліч разоў абыйшоў іх і ўздоўж, і ўпоперак. І пабудаваў жытло на самым узьлеску, бо чаго ж варты чалавек бязь лесу.

Тут табе й дровы, й дзічына, й скуры зьвярыныя, і грыбы, і ягады, і схованка на выпадак бяды. А недалёка ад лесу, ў зарослай алешнікам лагчыне рэчка цячэ-паблісквае. Не надта вялікая, але прыгожая, чыстая, на крыніцах. У ёй можна рыбу лавіць, жывёлу паіць, пры вадзе лягчэй гусей-качак разводзіць. А з часам, глядзіш, можна й млын збудаваць, лазьню паставіць.

Улічваў продак таксама, ці жывуць блізка людзі, ці ёсьць шляхі-дарогі. Яно лацьвей, калі йснуе повязь з навакольным сьветам — гэтак лягчэй нешта прадаць, абмяняць, купіць.

Нашы далёкія папярэднікі прыкідвалі, меркавалі, каб была даспадобы мясьціна, гэта значыць прыгожая ды зручная. Так і ўзьнікалі нашы паселішчы, нашыя вёскі. Нашыя бацькоўскія куткі — малыя радзімы.

*Страціце птушку, празь якую*
*Свойская загіне;*
*Забывайце песьню, што вам*
*Вораг ваш накіне.*

Янка Купала

Што адбылося? Адбылося запусьценьне, руйнаваньне, зьнішчэньне, зьнікненьне тысяч бацькоўскіх куткоў, тысяч малых радзімаў. Над здаровым сэнсам чыніўся гвалт. Можа, гэта пачалося тады, калі першыя безьзямельныя вяскоўцы падаліся ў горад на пошукі хлеба й заробку. Можа, тады, калі гарадзкая ўскраіна праглынула, увабрала ў свае межы сытую ды "гжэчную" прыгарадную вёсачку. І тады, калі "збальшавічаныя" бядняцка-батрацкія масы гвалтам выжывалі з палацаў, маёнткаў, фальваркаў іхных гаспадароў, а самі прапівалі, прагульвалі нарабаваныя скарбы, высякалі старадаўнія паркі, палілі печкі паліравана-інкруставаным дрэвам раяляў і мэблі. І тады, калі зь зямлі, з душы й сьвядомасьці людзей выдзіраліся радзімыя знакі родных загонаў і межаў. І тады, калі сыходзілі ў нябыт, з каранямі вынішчаліся падобныя да старасьвецкіх дзецюкоў пад саламянымі капелюшамі хутары — ці не самыя ідэальныя гнёзды чалавечага сельбаваньня.

А ў душах тых, хто быў здольны спасьцігнуць гэта, сімвалам казённага "ўпарадкаваньня" застануцца сады на былых хутарскіх котлішчах, вырваныя з карэньнем у траўні — пад час веснавога цьвіценьня, ці ў жніўні — пад час дасьпяваньня.

*І ў белы дзень і ў чорну ноч*
*Я ўсьцяж раблю агледзіны,*
*Ці гэты скарб ня збрыў дзе проч,*
*Ці трупнем ён ня зьедзены.*

Янка Купала

Чарговы наступ на малыя радзімы зьвязаны з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Небывалая атамная бяда сагнала людзей з родных сялібаў, з бацькоўскіх куткоў. Ці магчыма чалавеку знайсьці, абжыць новае месца, каб яно замяніла яму малую радзіму? Трэба ж выбраць яго, аблюбаваць, паглядзець, якія й куды вядуць дарогі, зь якога боку вятры дзьмуць; распытаць, ці добра зямля родзіць, ці варта ў яе пускаць карані, ці ўдасца зрабіць гэта...

Але хіба магла бюракратычная дзяржаўная машына ўважыць гэткія "дробязі", паверыць сьлязам гаротнікаў, дазволіць людзям свабоду, раскошу выбару, адступіцца ад выпрацаваных імперскіх стандартаў? Вядома, не. І ствараюцца коштам вялікіх стратаў і намаганьняў ня ўтульныя ды зручныя сялібы, а паселішчы-рэзервацыі, загоны для тубыльцаў-чарнобыльцаў.

Страчаныя хаты, страчаныя вёскі... А страчаных малых радзімаў болей, чым вёсак, болей, чым хатаў. Іх столькі, колькі сагнаных з родных мясьцінаў людзей, колькі расчараваных, зьніякавелых, абыякавых душаў. Значыць, усё меней жыцьцёвай мудрасьці, летуценнасьці, справядлівасьці, патрыятызму. І ўсё больш хісткімі становяцца нашыя маральныя падмуркі, нашыя сьвятыні.



*Здымкі зробленыя ў Астравецкім раёне. Жнівень 1995.*


**SUMMARY**

*The disappearance into oblivion of the thousands of "little motherlands" - the villages, inhabited khutors, counties - the author describes as a spiritual loss of the notion and sees the reason of these processes in the anti-human Soviet ideology.*

# Мой родны кут, як ты мне мілы!..



**Спроба медытацыі на дзьвюх мовах**

*Якуб Колас. НОВАЯ ЗЯМЛЯ.*
*Чэслаў Сэнюх (Польшча). ПЕРАКЛАД.*

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе ня маю сілы!*
*Ня раз, утомлены дарогай,*
*Жыцьцём вясны мае убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю...*

*Вось як цяпер, перада мною*
*Ўстае куточак той прыгожа,*
*Крынічкі вузенькае ложа*
*І елка ў пары з хваіною,*
*Абняўшысь цесна над вадою,*
*Як маладыя ў час кахацьня,*
*Ў апошні вечар расставаньня.*
*І бачу лес я каля хаты,*
*Дзе колісь весела дзяўчаты*
*Сьпявалі песьні дружным хорам,*
*З работ ідучы позна борам.*
*Нясьліся зыкі песень здольных,*
*Ў лясах раз-пораз адбіваліся,*
*І ім узгоркі адклікаліся,*
*І радасьць біла ў песьнях вольных.*
*А хвоі, елкі векавыя*
*Пад зыкі песень маладыя*
*Маўчком стаялі ў нейкай думе,*
*І ў іх ціхусенечкім шуме*
*Няслось вячэрняе маленьне*
*Ўгару, сьвятое аддаленьне.*

# Kraju rodzinny serzu mily!..

*Kraju rodzinny sercu miły!*
*Zapomnieć ciebie nie mam siły!..*
*Nie raz, strudzony długą drogą*
*I wiosną życia mą ubogą*
*Do ciebie w myślach ulatuję*
*I spokój ducha odnajduję...*

*Lecz oto mam cię przed oczyma,*
*Zakątku mój umiłowany,*
*Strumyka wstążką przepasany,*
*Gdie sosnę świerk w objęciach trzyma*
*Ponad lustrzaną czystą wodą*
*I stoi z nią jak z panną młodą*
*Lub jak z kochanką, gdy nastanie*
*Godzina smutna pożegnania.*
*I widzę las w pobliżu chaty,*
*Wesołych kiedyś pełen śpiewów*
*Powracających z pola dziewuch,*
*Aż echo szło na bór brodaty.*
*To echo wzgórki dookolne*
*Od ściany boru przejmowały*
*I własnym rytmem wzbogacały*
*Radosne dźwięki pieśni wolnych.*
*Wiekowe świerki, dęby, sosny*
*Pośród tych dźwięcznych ech i piosnek*
*W milczeniu stały i zadumie*
*I w cichuteńkim koron szumie*
*Wieczorny pacierz swój szeptały*
*I ku niebiosom świętym słały.*



*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА
Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук

▪ прыродалюбная асьветна-публіцыстычная беларуская газета
▪ выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"
▪ год выданьня другі, 1996 №3
▪ рэгістрацыйны нумар 125, наклад 5000 асобнікаў, кошт дамоўны

Вёрстка: Вольга Вайніловіч.
Набор: Ірына Антонава.
Афармленьне, макет: Валерый Дранчук.
Падпісана ў друк 03.07.96. Замова 1613.
Набыць газету заўсёды можна на сядзібе Нацыянальнага парку "Белавежская пушча". Пры перадруку спасылка на газету абавязковая.

Рэдакцыя пакідае за аўтарамі магчымасьць вольна выказваць свае думкі й меркаваньні, роўна як і несьці адказнасьць за дакладнасьць і праўдзівасьць пададзеных зьвестак.

ЭКААПЕКА-96

Калі вы заможны чалавек і вам падабаецца газета "Белавежская пушча", вы можаце ахвяраваць на яе магчымыя сродкі. Ваша апека — заўсёды ў пашане.

"BIELOVEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusian Nature-Loving Newspaper. Motto: 'With Love to Lap' Published at the initiative of the Information Green Agency "NERUSH-PRESS"
Contact: 220088 MINSK Ivanovskaya 38-16 Phone 365076